# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №19 (140) 16 ЖНІЎНЯ 1999г.



**Сёньня спаўняецца 125 гадоў з дня нараджэньня першага рэдактара і выдаўца «Нашай Нівы» Аляксандра Ўласава**

## «Я МАЎЧУ ЦЭЛЫ МЕСЯЦ»

*Сямён Шарэцкі адказаў на пытаньні карэспандэнта «НН».*

*Старонка 3.*

зь Беларусі за суботу й нядзелю

### Авіяшоў

14 жніўня ў Баравусе пад Полацкам, Росі і Бабруйску адбыліся авіяшоў на знак Дня Ваенна-паветраных сіл 15 жніўня з паказальнымі палётамі нашых баявых МІГаў-29, Су-24 і Су-27, верталётаў Мі-8, Мі-24.

### Будзем калгасы карміць

Урад дае ў жніўні калгасам 20 тыс. тон дызпаліва і 10 тыс. тон бэнзыну дадаткова. Частку іх кошту, каля 1,1 трыльёну рублёў, аплоціць Мінфін. Другую частку заводы ў Мазыры і Наваполацку павінны адпусьціць без папярэдняй аплаты пад гарантыю аблвыканкамаў з пакрыцьцём кошту ў лістападзе. Міністэрства сельскай гаспадаркі дае таксама 102 млрд. рублёў на пакрыцьцё калгасных крэдытаў. Яшчэ 10 млрд. даюць на будаўніцтва выстаўкі для «сельскагаспадарчых жывёл» у Магілёўскім раёне, а 108 млрд. — на патрэбы калгасаў Шклоўшчыны, 110 млрд. на ўзнагароды пераможцам «рэспубліканскага спаборніцтва па ўборцы ўраджаю зерневых і зернебабовых», падлічыў БелаПАН. Адной рукой калгасы абдзіраюць, а другой — кормяць. І ўсе сабе кажуцца благадзецелямі.

### Кіно пра Малады Фронт

Рэжысэрка Мануэла Ропэрт зь нямецкага каналу «ARD» гэтымі днямі здымае фільм пра беларускую моладзь, які амаль цалкам будзе прысьвечаны Маладому Фронту.

### Кожны другі з машынай

На 1000 гарадзенцаў прыпадае па 163 прыватныя аўтамабілі. Значыць, кожная другая сям'я мае машыну. За паўгоду на Гарадзеншчыне скралі 137 машыноў, 107 міліцыя знайшла, а 30 пакуль не. Столькі сама кралі й летась — 274 за год, падлічыў БелаПАН.

## БЕЛАРУСЫ ІДУЦЬ У ЛЯСЫ

Цягам мінулага тыдня ў сутоцы Вяльлі й Нарачанкі дзейнічаў маладзёвы летнік, які з ініцыятывы маладачанскіх скаўтаў сабраў каля 140 падлеткаў зь дзесяці гарадоў Беларусі.

«Сярод вас пэўна ёсьць Мірон!» — першая думка, як патрапляеш у лягер. Справа ня ў колькасьці нацыянальных сьцягоў, якія аздабляюць бор — некаторыя штандары вісяць пад самымі вершалінамі высачэзных хвояў. «Верхалазаньне» не ўваходзіць у праграму, ім займаюцца аматары. А ў праграме — краязнаўства, сьпевы, і, вядома, футбол. «Культурная частка» — сольныя канцэрты Андрэя Мельнікава, Віктара Шалкевіча і Зьмітра Бартосіка. «Мы нажумысна бралі да сябе ня толькі людзей зь «сьвядомых» асяродкаў, але таксама дзяцей «на выхаваньне», — кажа арганізатар Алесь Чарняўскі. — На жаль, мы фізычна не маглі прыняць усіх ахвотных, бо не разьлічвалі, што адгукнецца такая колькасьць людзей».

Па адкрыцьці летніка на пачатку тыдня маладыя беларускія «партызаны» зрабілі паход на Залесьсе да маёнтку Міхала Клеафаса Агінскага. Распавядалі, што ўжо за дзень да сонечнага зацьменьня старшыня Залескага сельсавету «пачаў баяцца». Седзячы за вакном, ён налічыў 71 «тэрарыста», якія пад «забароненымі» сьцягамі займалі вёску. Міліцэйскія маёры і палкоўнікі, якія імгненна «прыбылі» з Смаргоні, патлумачылі старшыні, што гэта не «тэрарысты», а дзеці. Але позву ў міліцыю Алесю Чарняўскаму выпісалі: «за арганізацыю несанкцыянаванага шэсьця».

Гэта ня першы й не апошні маладзёвы летнік, які адбыўся сёлета ў Беларусі — у рэдакцыю прыйшлі зьвесткі пра летнікі пад Сьветлагорскам, Лагойскам, Берасьцем, Навагрудкам. Але на будучыню арганізатарам падобных доўгатэрміновых імпрэзаў трэба быць падрыхтаванымі да яшчэ большай колькасьці ахвотных. Бо ж, як сказаў Андрэй Мельнікаў, сустракаючы прыбылых журналістаў: «Расслабцеся, панове. Тут — вольны сьвет».

**Севярын Квяткоўскі**
**Фота Алеся Новіка**



*У лясах на Нарачы, пад Сьветлагорскам, Лагойскам, Берасьцем, Навагрудкам — летнікі беларускамоўнай моладзі*

тэма нумару:

## Сцэнары для Дагестану

*У многіх народаў Дагестану ёсьць гэткі звычай — пасьля будаўніцтва хаты самая старая ў сям'і кабета ставіць адбітак сваёй рукі над атворам брамы. Дзеля таго каб у доме заўсёды былі мір і ласка. Калі ўваходзіш у саклю, мусіш прыгнуць галаву, схіляючы яе перад памяцьцю тае кабеты — гаспадыні роду. Гэта ні з чым не параўнальнае пачуцьцё. Многім дамам-саклям у гарах Дагестану па некалькі соцень гадоў, і ў іх узгадаваліся дзясяткі пакаленьняў. Калі сярод непрыступных скалаў спатыкаеш могілкі, якім больш за тысячу гадоў, а яны, як і калісь, дагледжаныя, дык пачынаеш верыць усяму безглязднa... Даўжэзным расповедам пра Іскандэра (Аляксандра Македонскага), пра пэрсідзкіх цароў, пра орды Батыя, нібы ўсё гэта адбывалася на вачах суразмоўцаў...*

*Сёньняшняя вайна — трагедыя для народаў гэтае каўкаскае краіны. Для іх, у адрозьненьне ад нас, гэтае стагодзьдзе было адным з самых мірных за ўсю іх трохтысячагадовую гісторыю. Аднак ніколі ў гісторыі іхныя дамы не руйнаваліся. Цяпер яны, прастаяўшы шмат стагодзьдзяў, разьлятаюцца ўшчэнт ад расейскіх снарадаў і бомбаў.*

Гэтая вайна імгненна зьмяніла палітычны ляндшафт у Расеі. Дастаткова згадаць аўральную зьмену прэм'ера. Разам з тым, пэрспэктывы анэксіі Беларусі становяцца ўсё больш туманныя. Правядзеньне «рэфэрэндуму» аб улучэньні нашае краіны ў Расею адмененае. Больш за тое, расейскія палітолягі запанікавалі, сурочачы адтэрмінаваньне выбараў і ўвядзеньне Ельцыным прамога прэзыдэнцкага праўленьня (або прызначэньне Лебедзя выратавальнікам краіны). Гэта імаверна, бо надта ж нягегла выглядае сёньняшні прэм'ер Пуцін, які паабяцаў разабрацца з Дагестанам за паўтара-два тыдні. Тыя тыдні мінулі, а вайна разрастаецца. Узятая тактыка цэнзуры ў расейскіх СМІ й брутальных інсынуацыяў. France Presse ды BBC пацяшаюцца з расейскіх ваенных зводак, называючы іх мякка «недастаткова верагоднымі». Што праўда, дык гэта тое, што расейскай ракетаю быў зьнішчаны аўтобус, у якім ехалі 15 міліцыянтаў з Дагестанскага МУС. Вайна мае сваю лёгіку, і сваякоў гэтых міліцыянтаў не пераканаеш, што гэта была памылка...

*Працяг тэмы на старонцы 6.*



*Шаміль Басаеў*

фота AP

палітычны камэнтар

## Дэ-юрэ супраць дэ-факта

***Першыя асобы краіны і палітычныя лідэры паступова ператвараюцца ў «в.а.» — выканаўцаў сваіх абавязкаў***

На гэтым тыдні Сямён Шарэцкі абяцае падпісаць указ аб перайманьні паўнамоцтваў прэзыдэнта РБ. З гэтага моманту менавіта ён становіцца законным кіраўніком краіны ў вачох Эўропы і ўсяго заходняга сьвету, пакідаючы Лукашэнку ролю ўзурпатара.

Зразумела, што С.Шарэцкі ня будзе ў поўнай меры рэальным прэзыдэнтам, але нельга разглядаць яго і як толькі віртуальнага суб'екта палітыкі. Напрыклад, калі спадар Шарэцкі вырашыць прызнаць незалежнасьць Чачэніі або Дагестану, у вачох заходняга сьвету ўся Беларусь стане першай у сьвеце дзяржавай, якая прызнае гэтыя краіны. І прыклад можа аказацца прывабным для іншых... Як бачым, прызнаны моцнымі сьвету статус — гэта зусім не забаўка ў руках «пэнсіянэра Шарэцкага», як называюць яго афіцыёзныя СМІ.

Супрацьстаяньне ў беларускай палітыцы выстройваецца сёньня па лініі, што падзяляе дэюрэ і дэ-факта, законную і рэальную ўлады. Законным в.а. прэзыдэнта будзе Шарэцкі, а фактычным в.а. — Лукашэнка.

Аўтаматычна спадар Шарэцкі перастане быць старшынём Вярхоўнага Савету 13-га склікавпьня, а ягоныя функцыі ў ролі выканаўцы абавязкаў старшыні прыме ягоны першы намесьнік Віктар Ганчар. Гэта значыць, што менавіта Ганчар выступіць у ролі кіраўніка Вярхоўнага Савету — як каардынатара апазыцыі на будучых перамовах з Лукашэнкам, пра якія цяпер актыўна дбае кіраўнік Кансультацыйнай групы АБСЭ ў Беларусі спадар Вік. Такая пэрсаніфікацыя ўжо выклікала паміж партыямі чарговы пярэпалах. Ня хочам мы, маўляў, каб за нас з Лукашэнкам гаварыў Ганчар — заявілі адныя. І мы ня хочам, — удакладнілі другія, — але мы за тое, каб фармаваў апазыцыйную дэлегацыю менавіта адзіны законны Вярхоўны Савет. Што да прадстаўніцтва за сталом перамоваў, дык мы за сябе будзем гаварыць самі.

Трэба сказаць, што аб'яднаная на грунце незалежнасьці і дэмакратыі апазыцыя — ці не найбольшы на сёньня здабытак беларускай палітыкі за апошнія дзесяць гадоў. Кожнае слова і кожны маленькі крок тут даюцца нашмат цяжэй, чым прамова на мітынгу.

*Працяг на старонцы 3.*

лісты ў рэдакцыю

## Ад Менску да Зэльвы няблізка

*Імя Ларысы Геніюш адназначна захоплена ўспрымаецца кожным прыхільнікам нацыянальнага Адраджэньня. Што ня дзіўна, бо надта ж адрозьніваецца постаць славутай паэткі ад стэрэатыпу памяркоўнага беларуса.*

*Восьмы год запар на дзень нараджэньня Ларысы Геніюш, 9 жніўня, у Зэльве, дзе паэтка пражыла апошнюю частку свайго жыцьця, адбываецца літаратурна-мастацкая імпрэза. Так было й на гэты раз. Кіраўніцтва Саюзу Пісьменьнікаў, пасьля таго як у замежжа зьехаў старшыня Ўладзімер Някляеў, павінны былі прадстаўляць ягоныя намесьнікі, але ўжо так здарылася, што перад самым ад'ездам яны ўсе нечакана прыхварэлі. Давялося ў няблізкай вандроўцы прадстаўляць кіраўніцтва СП літкансультанту, бум-бамлітаўцу Зьмітру Вішнёву, які ледзь пазіраў на сьвет адзіным прыадплюшчаным вокам — прыхварэў на кан'юнктывіт.*

*...Мясцовай публікі было нягуста. Але й ня так мала. У Сьвята-Траецкай царкве адбылася паніхіда па Ларысе Геніюш. Служыць яе прыехалі з Горадні два маладыя бацюшкі Аляксандры. Стараліся прамаўляць па-беларуску. Старыя зэльвенцы стомлена выходзілі з царквы, няўважна перагаворваліся.*

*— Гэна што за Геніюш? Доктар каторы?*

*Насупраць царквы — былы дом паэткі. Праўда, ужо настолькі былы, што і няма там на што паглядзець. Людзі, што выкупілі яго, цалкам усё перабудавалі. Адзін каменны ганак застаўся, і той цяпер вядзе не да дзьвярэй, а да глухой сьцяны. Туды й паклалі кветкі...*

*Далей па пляне было наведваньне магілак, дзе пахаваная паэтка разам з мужам. Ад гэтага году Зэльвенская філія БНФ учыніла ўзнагароду выбітным змагарам-адраджэнцам — бел-чырвона-белы шалік. Першым ляўрэатам стала Ларыса Геніюш. Ва ўрачыстай атмасфэры шалік навязалі на помнік.*

*У мясцовым Доме культуры адбылася вечарына. Прыйшлі, як заўсёды, тыя, хто заўсёды і ходзіць, так што ні агітаваць за беларускасьць, ні прасьвятляць наконт асобы Геніюш публіку не выпадала. Застаецца толькі гадаць, па-першае, калі зэльвенскія ўлады ўсьвядомяць, што сусьветную славу іхнаму мястэчку могуць здабыць не надоі малака і не землякі-генэралы, а толькі тая акалічнасьць, што побач зь імі жыла вялікая паэтка, і, па-другое, у каго зь пісьменьнікаў са стольнага Менску хопіць здароўя ды імпэту прыехаць да Геніюш наступным годам?*

**В.А.**

***

*Забараніць наркотыкі і алькаголь ня ўдасца — усё роўна зьявяцца ахвочыя. Нелегальны тавар заўжды дарагі, і той, хто трапіць у залежнасьць, мусіць згубіць шмат грошай, да таго ж іх нястача можа падштурхнуць яго да крадзяжоў. Трэба, легалізаваўшы, увесьці дзяржманаполію на наркотыкі. Канечне, скажуць: як можна гэта дазваляць! Але забароны ня спыняць ахвоту да наркотыкаў. Яшчэ кажуць: дзяржава спойвае народ і нажываецца на яго слабасьцях. Але што значыць: «дзяржава нажываецца»? Дзяржава — гэта бюджэт, грошы зь якога ідуць на стварэньне умоваў грамадзкага жыцьця. Грошы ад згаданых тавараў павінны ісьці ў мэдыцыну наогул ці менавіта на лячэньне ад алькагалізму-наркаманіі-паленьня. У крамах трэба павесіць аграмадны плякат: «Усе грошы, заплачаныя Вамі, пойдуць на Вашае лячэньне». Плякат можа зрабіць вялікае ўражаньне — «гарантаваная» пэрспэктыва лячэньня адаб'е ўсю ахвоту. Дзяржава павінна не зьнішчаць наркаплянтацыі ў сялянаў, а стаць манапалістам у куплі сыравіны ў гэтых сялянаў, прапануючы вышэйшыя цэны.*

*У другую чаргу грошы ад згаданых тавараў можна дзяліць паміж мэдыцынай і міліцыяй, бо наркаманы і алькаголікі могуць рабіцца сацыяльна небясьпечнымі элемэнтамі, абараняць грамадзтва ад якіх трэба міліцыі.*

**Віталь Станішэўскі, Менск**

***

*Пабачыў новы нумар «Arche» пра «вялікую айчынную вайну». Найбольш уразілі словы, што ў «Arche» ўпершыню па-беларуску друкуецца кавалак з кнігі Юр'я Туронка «Вацлаў Іваноўскі й адраджэньне Беларусі». Цікава тады, на якой мове выходзіць часопіс «Маладосьць», які ў №8-9 за 1994 г. надрукаваў тую ж кнігу? «Жыцьцё пад агнём» Барыса Рагулі, прадмова: зводзіць усе беды беларусаў да «гідкага расейскага шавінізму» — гэта тое самае, што абвінавачваць Рональда Рэйгана ў сушы на Беларусі 1999 г. Ды й песьні «Штурмавога Зьвязу» друкуюцца не ўпершыню. Песьня пра «беларускага жаўнера, які ня хоча браць з сабой дзяўчыну», друкавалася ў газэце «Пагоня» на пачатку 1995 г.*

**Чытач з вул. Акадэмічнай, 1**

дзе варта быць



Наступны тыдзень пройдзе ў беларуска-расейскім змаганьні. Тэатральным, музычным і спартовым. **17 жніўня** на сцэне Дому афіцэраў расейскі чорт у каторы раз будзе біцца аб заклад зь беларускім селянінам Дзёмкам у **спэктаклі Малога тэатра "Камэдыя"** па п'есе Каэтана Марашэўскага. Пра тое, што беларуская душа д'яблу (тым больш русскоязычному) не прадаецца, ведае, напэўна, увесь Менск. Але глядзець на гэта ніколі ня сумна. Тым больш, што ў ролі Люцыпара выступіць новы выканаўца Генадзь Фамін (Забара замольвае грахі на роднай Палтаўшчыне). Пачатак спэктаклю а 19-й гадзіне. Цана білетаў: 250–600 тыс. рублёў.

Гітара – гэта стары беларускі народны інструмэнт, згадваны ў многіх народных песьнях. **18 жніўня** а 19-й гадзіне ў Доме афіцэраў распачнецца **"Музычная дуэль" паміж лепшым гітарыстам Беларусі Ўладзімерам Угольнікам** і лепшым гітарыстам Расеі, музыкам гурта «ДДТ», Нікітам Зайцавым. Набор зброі дуэлянтаў – ад клясычнай да бас-гітары – задаволіць любы густ. Акрамя гэтага, у кожнага будзе някепская каманда сэкундантаў – бубначоў і клявішнікаў. Цана квіткоў: 500–900 тыс. рублёў. Спадзяемся, што да "гішпанскіх гальштукаў" ня дойдзе.

У гэты самы дзень і ў гэты самы час на стадыёне "Дынама" сьвісток арбітра дасьць пачатак міжнароднай таварыскай сустрэчы **паміж футбольнымі зборнымі Беларусі і Расеі.** Першы матч, які адбыўся ў траўні ў Маскве, скончыўся зь лікам 1:1. Які больш спрактыкаваныя расейцы ўспрынялі як паразу. Таму рэванш абяцае быць не па-таварыску зацяты. Інтрыгі ў матч дадае момант помсты. Нашай зборнай выпадае шанец абараніць гонар беларускага футболу, заплямлены на мінулым тыдні ў розыгрышы кубка UEFA (БАТЭ (Барысаў)–"Лакаматыў"(Масква) 1:7; "Белшына" (Бабруйск) – "Амонія"(-Нікасія) 1:5). Шкада, што ў складзе беларусаў ня будзе кіеўскіх легіянэраў. Але колькасьць нацыянальных сьцягоў на трыбунах павінна дадаць нашым гульцам сілаў выстаяць і перамагчы.







Фота Міхала Баразны.



## ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ ЧЫТАЧОЎ У МЕНСКУ

Каб чытаць сьвежы нумар «НН» у дзень выхаду – у панядзелак і пры гэтым эканоміць час і грошы, аформіце падпіску ў бліжэйшым шапіку «Белсаюздруку».

Зь ліпеня 1999 г. падпіску «да запатрабаваньня» прымае 31 газэтны шапік. Менскі «Белсаюздрук» <u>гарантуе</u> выдачу газэты па падпісным абанэмэнце ў дзень выхаду газэты, а таксама захаваньне не забраных вамі асобнікаў праз увесь падпісны пэрыяд.

Кошт падпіскі на «НН» на месяц (зь ліпеня) – 175 000 руб. (4 нумары ў месяц, газэта выходзіць на 12 старонках). Падпіска «да запатрабаваньня» прымаецца да 23 дня перадпадпіснога месяца ў крамах і шапіках «Белсаюздруку» г. Менску. Даведацца і высьветліць няясныя пытаньні можна па тэл. 227-88-41 у спадарыні Натальлі Сьвятохі.

**Падпіска па краіне на II паўгодзьдзе 1999 году.**
**Кошт на 1 месяц – 192 000 рублёў, на 3 месяцы – 576 000 рублёў.**

НАША НІВА

**<u>Ніжэй мы падаем сьпіс пунктаў, дзе можна падпісацца й забіраць газэту:</u>**

1. Кастрычніцкі пункт падпіскі, вул. Жукоўскага, 5, к. 1
2. Партызанскі пункт падпіскі, вул. А.Кашавога, 8
3. Першамайскі пункт падпіскі, пр. Ф.Скарыны, 113
4. Фрунзенскі пункт падпіскі, вул. Раманаўская Слабада, 9
5. Крама № 1 — вул. Жукоўскага, 5
6. Крама № 2 — пр. Ф.Скарыны, 44
7. Крама № 3 — пр. Ф.Скарыны, 76
8. Крама № 4 — вул. Леніна, 15
9. Крама № 6 — вул. Філімонава, 1
10. Крама № 7 — вул. Якуба Коласа, 69
11. Крама № 8 — вул. Сурганава, 40
12. Крама № 9 — пр. Ракасоўскага, 140
13. Крама № 10 — вул. Асіпенкі, 2
14. Крама № 11 — пр. Пушкіна, 77
15. Крама № 12 — вул. Кіжаватава, 80
16. Крама № 13 — вул. Каліноўскага, 82, к. 2
17. Крама № 14 — вул. Валадарскага, 22
18. Крама № 15 — вул. Танкавая, 16
19. Крама № 16 — вул. В.Харужай, 24
20. Крама № 17 — вул. Някрасава, 35
21. Крама № 18 — ст. м. «Плошча Перамогі»
22. Крама № 19 — пр. Машэрава, 51, к. 1
23. Крама № 20 — вул. Ясеніна, 16
24. Крама № 21 — станцыя мэтро «Пушкінская»
25. Крама № 23 — вул. Славінскага, 39
26. Крама № 24 — вул. Жылуновіча, 31
27. Шапік № 34 — гатэль «Менск», пр. Ф.Скарыны, 11
28. Шапік № 136 — ст. м. «Плошча Якуба Коласа», выхад да Акадэміі Фізкультуры
29. Шапік № 187 — гатэль «Беларусь», вул. Старажоўская, 15
30. Шапік № 262 — гатэль «Плянэта», пр. Машэрава, 31
31. Шапік №78 — гатэль «Юбілейны», пр. Машэрава, 19

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125**


Фота Дзяніса Раманюка

# Сямён Шарэцкі: «Я ЦЭЛЫ МЕСЯЦ МАЎЧУ»

**«Наша Ніва»: Сёньня шмат кажуць пра тое, што 21 жніўня Вы падпішаце ўказ аб перайманьні паўнамоцтваў прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі...**

**Сямён Шарэцкі:** Справа не ў 21-м жніўня. Справа ня ў тым, гатовы я ці не гатовы. Мяне да гэтага абавязвае Канстытуцыя Рэспублікі Беларусі. І я проста мушу зрабіць гэта. Будзе гэта 21-га ці 17-га ці 15-га... Справа ня ў гэтым. Справа ў тым, што міжнародныя арганізацыі, у першую чаргу АБСЭ, спрабуюць дапамагчы нам і былому прэзыдэнту вырашыць усе гэтыя пытаньні мірным канстытуцыйным шляхам. Самая галоўная праблема сёньня — у неканстытуцыйнасьці ўсёй цяперашняй улады. Застаўся толькі Вярхоўны Савет, абраны народам, адзіны канстытуцыйны й заканадаўчы орган. І паколькі яны (АБСЭ) спрабуюць наладзіць перамоўны працэс (я ня ведаю, наколькі гэта плённа і наколькі яны самі ў гэта вераць), дык мы ім пакуль верым. І нам было б няслушна заяўляць адразу 21 ліпеня, калі скончыліся законныя паўнамоцтвы Лукашэнкі, што я ўжо ўсё, замяшчаю прэзыдэнта. Гэта было б нетактычна і няправільна. Любы мір лепшы за вайну. Трэба неяк паспрабаваць адхіліць Лукашэнку мірна. Можа, як гаворыцца, у чалавека знойдзецца розум... І ягонае атачэньне гэта разумее. Зразумелі ж яны, што нельга гэтак гнаць, як яны гналі ў Расею. Гэта ім дапамог зразумець і Ельцын, пакуль Лукашэнка ўсё марыў (а мабыць і цяпер яшчэ марыць), што ён будзе ў Крамлі, Ельцын сказаў, што ў Крамлі павінен быць Пуцін. Дарэчы, быў жа Рас-пуцін, а гэты выходзіць ужо Два-Пуцін... Гэта ж манархічны падыход да вырашэньня справаў... Лукашэнка кажа, у сваю чаргу — буду два гады, а то і сем гадоў. Усё спасылаецца на той рэфэрэндум. Я думаю, што здаровы чалавек на гэта спасылацца не павінен. Той рэфэрэндум праводзіўся з дапамогаю бронетранспарцёраў, амону. Бюлетэні можна было браць кучамі, яны ня ўлічваліся, таму і прайграць гэткі «рэфэрэндум» было б немагчыма.

**— Выходзіць, дата, да якой «прывязваліся» журналісты — няпэўная...**

— Я не хачу казаць, пэўная ці няпэўная. У палітыцы гэтак ня робяць. Вядома, часам трэба і сьпяшацца. Але тут трэба ўзгадняць. Мы тут толькі што размаўлялі і са спадаром Шушкевічам і са спадаром Цярэнем, намесьнікам Старшыні Вярхоўнага Савету. Прыяжджаў і Вік, старшыня Кансультацыйнай групы АБСЭ. І праз колькі дзён, 21 жніўня, мы ізноў будзем зьбірацца разам зь ім для ўзгадненьняў. Мабыць менавіта гэта і дало падставу журналістам гаварыць пра гэтую дату...

**— Але калі Вы ўсё ж прымеце на сябе абавязкі прэзыдэнта, Ваш статус адпаведна зьменіцца. Як гэта паўплывае на перамоўны працэс?**

— Так. Але нельга ж, скажам, пяць гадоў чакаць! Партыі дэлегавалі свае правы Вярхоўнаму Савету. Партыі гатовыя, Вярхоўны Савет гатовы... Дык і Лукашэнка павінен быць гатовы. Так? А з Лукашэнкам ніяк ня можа йсьці гаворкі як з законным прэзыдэнтам. Мы яго заклікалі да перамоваў, калі ён быў законным прэзыдэнтам, але... Мы заклікалі, заклікалі... Ну, а сёньня тэрмін яго скончыўся. Кім бы ён сябе ні лічыў, ад гэтага ён ня будзе законным. Праўда, цяпер бачыў, расейскае тэлебачаньне ізноў пачало яго пісаць: «прэзыдэнт Беларусі». Ну дык за грошы чаго толькі не напішуць...

**— У выпадку, калі Вы будзеце выконваць абавязкі прэзыдэнта, перад Вамі паўстане задача сфармаваць уладныя структуры. Хто іх будзе ўзначальваць? Найперш, натуральна, гаворка пра прэм'ер-міністра.**

— Я не хацеў бы варажыць на кававай гушчы. Гэта мая прэрагатыва. Я папрасту назаву чалавека і ўсё! Калі прыйдзе той час. Ну, а журналісты маюць права прагназаваць. Хай сабе падумаюць. Можа і мне дапамогуць асобу назваць. А таму, папершае: я пакуль нікога не называў. Усіх, з кім я сустракаўся, журналісты ўжо прызначаюць на розныя пасады... Гэта няпраўда. Палітыкі маглі б таксама ўстрымацца, бо гэта некарэктна. Называлі і Лашкевіча, і Домаша, і Шлындзікава, і яшчэ каго. Гэта пакуль домыслы.

**— Ці прывез спадар Вік Вам сьвежыя ідэі, новыя прапановы?**

— Я спадару Віку казаў — глядзіце, ідзе час, і мы чакаем ад Лукашэнкі нейкіх крокаў насустрач. І вось ягоныя крокі: Чыгіру працягнулі тэрмін зьняволеньня без суду, над Клімавым пачалося бессаромнае ганебнае судзілішча, Шчукіна пасадзілі ў турму, дзеля пошуку Захаранкі ніхто нават мезенцам не паварушыў... Сродкі масавай інфармацыі як былі манапалізаваныя, так і засталіся, як выкарыстоўваліся для хлусьні і брутальнай прапаганды, гэтак і выкарыстоўваюцца... Ну чаго яшчэ? Якія крокі далей? Дзе добрая воля? Апазыцыя пайшла насустрач. Партыі, Вярхоўны Савет падпісалі пагадненьне. Вы бачыце? Я маўчу. Цэлы месяц маўчу! Дзеля таго, каб не перашкаджаць вашаму перагаворнаму працэсу. Я ж толькі сёньня вам кажу проці Лукашэнкі, аб ягоных кроках...

**— Але ж ён прызначыў «групу для перамоваў з грамадзкасьцю».**

— Ну дык вось хай і перамаўляюцца з грамадзкасьцю. Ён жа і так кожны дзень прамаўляе да грамадзкасьці па тэлебачаньні. І гавора ўжо ўсё, што хоча. Як кажуць, што сьліна нясе ды язык верне. Я ня тое, што «не паважаю» гэтую «групу». Але ж ёсьць Вярхоўны Савет, якому ўсе партыі даручылі прадстаўніцтва ад апазыцыі. А ён з кім будзе гаварыць? Калі ён нам Сазонава, ну дык і мы такога прызначым. І што? Не магу ж я ці, скажам, Ганчар, гаварыць на гэткім узроўні. Заўтра Лукашэнка скажа, што ён таго Сазонава не ўпаўнаважваў, як у свой час сказаў пра Антановіча. Ну дык Антановіч быў міністрам замежных справаў! А гэты хто?

**— Мы паведамлялі сваім чытачам пра Вашыя сустрэчы з рознымі кіраўнікамі ў Літве...**

— Усе ўсё ведаюць!.. Я нідзе, напрыклад, не казаў пра сваю сустрэчу з Адамкусам. З маіх вуснаў такога не выходзіла... Я называў публічна толькі спадара Ландсбэргіса. Астатняе — гэта мае справы. Я шмат у Вільні з кім сустракаюся, з дыпляматамі, дэпутатамі Сэйма і гэтак далей. Але я пра гэта нікому не кажу. Гэта пакуль нетактычна, недыпляматычна... У мяне неўзабаве будуць афіцыйныя сустрэчы з урадоўцамі Польшчы і Латвіі. Але ж я не магу ўсё распавядаць. Я сустракаюся з усімі, каго тычыцца справа Беларусі. Найперш я сустрэўся з дыпляматамі ЗША і Брытаніі, каб нагадаць, што ў свой час прэзыдэнт ЗША і прэм'ер Брытаніі падпісалі дамову пра тое, што пасьля вываду ядзернай зброі зь Беларусі нам будзе гарантаваная незалежнасьць. І Расея гэтую дамову падпісала! Вось я і сустрэўся з дыпляматамі гэтых краінаў у першую чаргу і спытаўся: «Як наконт тых падпісаньняў і абавязацельстваў?» А пра астатняе я не кажу.

**— Ці маеце Вы саюзьнікаў у Расеі?**

— Мы добра падтрымліваем сувязі з «Правым делом», зь якім у нас падпісаныя дамовы. Кантактуем з гэткімі палітыкамі як Чубайс, Гайдар, Нямцоў, Фёдараў, Козыраў, Хакамада...

**— Як пройдзе гэты Ваш працоўны тыдзень?**

— Буду далей займацца перамовамі. Я толькі што вярнуўся зь Беластоку, з Польшчы, дзе вёў гутаркі ў рэдакцыі газэты «Ніва». Вёў перамовы з кіраўніцтвам Беластоцкага ваяводзтва, бо зараз прынята рашэньне пра адкрыцьцё там беларускай радыёстанцыі. Трэба ва ўсім гэтым удзельнічаць актыўна. Рыхтуюся да наступных візытаў у Польшчу і Латвію. Буду весьці перамовы і сустракацца з прадстаўнікамі ўсіх партыяў і з калегамі зь Вярхоўнага Савету. Палітыка — нармальны працэс дзеля таго, каб астатнія людзі, якія ёю не займаюцца, маглі спакойна працаваць і зарабляць... Камусьці не падабаецца, скажам, Ганчар. Альбо, кажуць, трэба гаварыць зь Вячоркам, а не з Пазьняком. Я кажу — трэба размаўляць і зь Вячоркам, і з Пазьняком. І са Статкевічам. У мяне абавязак гэткі. Што да непаразуменьняў, сымпатыяў ці антыпатыяў, дык я Вам скажу — у палітыцы гэта ж не ў сям'і ці сяброўстве. Не падабаецца чалавек — ня пі зь ім гарэлкі. Не падабаецца жанчына — не бяры ў жонкі ды не кладзіся зь ёю спаць. А тутака ж гэтага ўсяго ня трэба. Тут трэба вырашаць пытаньні. Першае: захаваць незалежнасьць Беларусі як самастойнага суб'екта міжнароднага права. Другое: трэба вярнуць краіну на дэмакратычны шлях разьвіцьця, а дзеля гэтага трэба адхіліць сёньняшні незаконны рэжым ад улады.

*Гутарыў Сяргей Харэўскі*

палітычны камэнтар

# ДЭ-ЮРЭ СУПРАЦЬ ДЭ-ФАКТА

*Працяг са старонкі 1.*

Выглядае, што зьмяніліся часы. На зьмену рамантычным прарокам і тостам «за снайпэра» прыходзіць тое, што ўжо ў агульных рысах нагадвае рэальную палітыку — тактычнае і стратэгічнае партнэрства. Адлік гэты працэс бярэ з травеньскіх прэзыдэнцкіх выбараў. Разьвіцьцё — у выступах на зьезьдзе БНФ, дзе «рамантыкі» выглядалі настолькі ўчорашнім днём, што нават адыёзны рэзанатар прагаварыўся, назваўшы іх «людзьмі ў штацкім». Праўда, канкрэтызаваць ён ня стаў, але й без таго зразумела, што Лукашэнку «устраивает» Фронт на чале з Пазьняком. Дапусьцім жа, што «раскол» БНФ інсьпіруецца не з адміністрацыі ППРБ, а з унутрыфронтаўскіх супярэчнасьцяў, бало б наіўна. У Фронце няма ані тактычнага, ані стратэгічнага рознагалосься. Увесь канфлікт — у асобе лідэра. Заўзятыя пазьнякоўцы паранейшаму трымаюць свой сьцяг, ня хочучы бачыць, што на сьцягу тым даўно прасьвечваецца знаёмы арнамэнт.

Аднак вернемся да віленскага выгнаньніка С.Шарэцкага і да ўказу, які ён абяцае падпісаць на гэтым тыдні. В.а. прэзыдэнта выбудзе зь перагаворнага працэсу, аднак адразу апынецца ў коле іншых задач. Першая зь іх — прызначэньне кіраўніка ўраду. Найбольш верагодным кандыдатам называюць камуніста Анатоля Лашкевіча, які працуе дырэктарам заводу ў Маскве. Кажуць, у Расеі Лашкевіч фінансуе Зюганава, а ў Беларусі — Калякіна. Магчыма, менавіта гэта меў на ўвазе Станіслаў Багданкевіч, калі папярэдзіў, што ягоная фракцыя падтрымае гэтую кандыдатуру толькі пры ўмове, калі А.Лашкевіч дасьць пісьмовыя гарантыі таго, што будзе адстойваць незалежнасьць краіны. Аднак С.Шарэцкі ўжо ў сёньняшнім сваім інтэрвію «НН» сказаў, што гэта домысел і што выбар прэм'ера — ягоная прэрагатыва.

Якія яшчэ ўказы падпіша новы в.а. прэзыдэнта? Як зьменіцца ягоны статус у Літве, дзе ён можа ў адзін момант ператварыць сябе ў афіцыйную асобу і найвышэйшую службовую асобу суседняй краіны? З кім з калег-прэзыдэнтаў ён сустрэнецца і пра што павядзе гаворку? Пра ўсё гэта мы дазнаемся на наступным тыдні. А тыдзень гэты пройдзе пад знакам «в.а.» — в.а. прэзыдэнта, в.а. старшыні ВС. Нагадаю, што пачалося ўсё з в.а. старшыні найбуйнейшай апазыцыйнай партыі — БНФ.

Так ці інакш, скарот «в.а.» у нашай сытуацыі больш падобны да праўды, чым, напрыклад, «прэзыдэнт РБ» ці «сьпікер парляманту» або «лідэр нацыі», якія ці не для ўсіх ужо ператварыліся ў пусты гук.

*Сяргей Паўлоўскі*

# ТАТАРСКІ БАЛЬ

***Зьезд — каб пераразнаёміць хлопцаў і дзяўчат***

Тацяна СЬНІТКО

Знайсьці ў Слоніме мусульманскі храм аказалася няцяжка. Калі ў вас стае цярпеньня дачакацца мясцовага грамадзкага транспарту (аўтобусы ходзяць раз на паўгадзіны), трэба дабрацца да цэнтру і збочыць на мост праз канал. На ягоным беразе, усеяным рыбакамі, і прытуліўся будынак з паўмесяцам наверсе. Мячэт у Слоніме зусім не падобны да велічных мусульманскіх храмаў, якія даводзілася бачыць на Каўказе. Ён выглядае вельмі сціпла і, у адрозьненьне ад каўкаскіх, вызначаецца свабодай нораваў. На набажэнствы сюды пускаюць ня толькі жанчын, але й прадстаўнікоў іншых веравызнаньняў.

Калі я ўвайшла ў мячэт, ніхто не маліўся. Кіраўніцтва мусульманскай грамады гораду частавала гасьцей, што прыехалі на зьезд. Не пасьпяваю амаль нічога сказаць, як аказваюся за сталом. Адмаўляцца ў такіх выпадках бессэнсоўна ды й не прынята: першы звычай мусульманаў — накарміць госьця з дарогі. Калі госьць адмаўляецца, ён наносіць крыўду гаспадару.

Зьезд татарскай моладзі, які прайшоў у Слоніме 14 жніўня, быў прымеркаваны да 5-й гадавіны адраджэньня ў горадзе мячэту. Паводле гістарычных зьвестак, мясцовыя татары-мусульмане мелі тут свой храм яшчэ ў 1665 годзе. У 1881-м у страшэнным пажары згарэлі мячэт і колішняя Татарская вуліца. Праз два гады храм быў адбудаваны наноў, але згарэў другі раз ужо ў 44-м годзе, калі з гораду адыходзілі нямецкія войскі. Вуліцу Татарскую неўзабаве перайменавалі ў вул. Кірава.

З канца вайны і аж но да пачатку 90-х гадоў слонімскія татары мелі свайго імама й маліліся па хатах.

Яшчэ адна памятная для татараў дата ў жніўні — угодкі заснаваньня знакамітай некалі бібліятэкі. Створаная з ініцыятывы тутэйшых мусульманаў на пачатку 20-х, бібліятэка праіснавала да 17 верасьня 1939-га. Пачатак жніўня ў тыя гады быў часам правядзеньня вялікіх урачыстасьцяў у колішнім Доме Людовым. Цікава, што ўрачыстасьці звaліся зусім па-эўрапейску — балямі. За польскім часам слонімскія татары мелі традыцыю ладзіць балі таксама ў гонар Байраму.

Такім чынам, нечакана для сябе я патрапіла якраз на працяг тых татарскіх баляў. Толькі замест «Дому Людовага» цяпер ён адбываецца ў адной з школаў. Госьці на баль-зьезд прыбылі з 12 гарадоў Беларусі, а таксама зь Літвы. Як патлумачыў кіраўнік слонімскай татарскай супольнасьці Сулейман Байрашэўскі, меркавалася таксама ўдзел польскіх татараў, але іх вырашылі не запрашаць пасьля акту вандалізму. Спадар Сулейман у гутарцы выказаў спадзяваньне, што вінаватых хутка знойдзе мясцовая міліцыя. Аднак, па зьвестках зь іншых крыніцаў, міліцыя ды супрацоўнікі спэцслужбаў не праяўляюць вялікай трывогі ў зьвязку з актам зьнявагі нашых суграмадзян ісламскай веры. На маю думку, адна з прычын — уплыў на масавую сьвядомасьць панславянскай прапаганды. Яна ракой лілася пад час апошніх падзеяў на Балканах. Яна працягвае ліцца ў сувязі з канфліктам на Каўказе. Толькі якое дачыненьне нашыя татары маюць да далёкіх гарачых кропак? Як адзначыў у сваім выступе на зьезьдзе кандыдат гістарычных навук, намесьнік муфція Ібрагім Канапацкі, якраз беларускія мусульмане заўсёды вызначаліся верацярпімасьцю, якой бракуе насельнікам рэгіёнаў, дзе цяпер ліецца кроў.

Нягледзячы на тое, што вокны мячэту давялося пазабіваць дошкамі, запужаць татараў не ўдалося. Больш за тое, напярэдадні зьезду татарскай моладзі, пасьля доўгага перапынку ў слонімскім мячэце адбыўся хазан — іманарачэньне дзіцяці мусульманскім імем. А 13 жніўня адна маладая хрысьціянка прыняла іслам, жадаючы быць адной веры са сваім мужам-мусульманінам. Са словаў Сулеймана Байрашэўскага, гэта першы падобны выпадак у Слоніме за апошнія 60 гадоў.

Сёньня Слонім, як і на працягу апошніх стагодзьдзяў, застаецца адным з цэнтраў татарскай культуры былога Вялікага Княства Літоўскага — менавіта тут рэстаўруюцца старыя выданьні Карану, надрукаваныя адмысловым казанскім шрыфтам. Некаторым з гэтых кніг па сто і болей гадоў. Усе яны захоўваліся некалькімі пакаленьнямі татараў па хатах.

Беларускія татары імкнуцца падтрымліваць сувязі са сваімі суродзічамі ды адзінаверцамі ва ўсім сьвеце. Лідэр моладзі Барыс Радкевіч распавёў пра пляны абмену студэнтамі паміж ВНУ Беларусі й Татарстану. Ужо цяпер два татарскія хлапцы і адна дзяўчына зь Беларусі паехалі вучыцца ва ўнівэрсытэты Турцыі. Беларускі муфціят і асабіста Ібрагім Канапацкі робяць шмат дзеля вяртаньня на нашую зямлю гістарычных рэліквіяў. Напрыклад, у адным з музэяў Турцыі захоўваецца датаванае 1558 годам «Рысале-Ітатар-Ілекс» — «Апісаньне татараў у Літве», створанае на просьбу турэцкага султана Сулеймана. У Беларусі ж няма нават копіі гэтага апісаньня, і невядома, калі яна зьявіцца.

На зьезьдзе было прапанавана стварыць аб'яднаную арганізацыю маладых татараў Беларусі, Польшчы і Літвы — нашчадкаў адзінай супольнасьці татараў Рэчы Паспалітай. Адна з галоўных задач моладзі — адраджэньне старых мусульманскіх могілак-мізараў. Гаворка ня толькі пра закінутыя старыя могілкі, але і пра ўшанаваньне месцаў пахаваньня, разбураных камуністычнымі ўладамі. На зьезьдзе прагучалі зьвесткі аб прыкладзеных праз магілы татараў аўтатрасе Менск—Берасьце, Ашмянскім тракце... Больш складанае пытаньне — спробы адрадзіць мову татараў ВКЛ, якую тыя забыліся ў XVI ст. Дарэчы, толькі нашы татары праз сваю ізаляванасьць больш за 200 гадоў захоўвалі той варыянт татарскай мовы, на якім гаварылі ў Залатой Ардзе.

Зьезд скончыўся ў лепшых традыцыях старых часоў — балем. Пачастункі і танцы былі абавязковай часткай праграмы. Татары колішняга ВКЛ зьбіраюць сваю моладзь раз на два-тры гады, каб пераразнаёміць хлопцаў і дзяўчат паміж сабой. Пасьля многія ствараюць сем'і, падаўжаюць традыцыі продкаў. Аднак сёньня пасапраўднаму захоўваюць і падаўжаюць традыцыі толькі ў Іўі. Менавіта івейскія татары найбольш згуртаваныя. Яны не жадаюць нікуды зьяжджаць са свайго мястэчка і растварацца ў сьвеце. Хіба не яны надаюць гэтаму сьвету разнастайнасьці? Адраджэньне культуры беларускіх мусульманаў — частка адраджэньня Беларусі ўвогуле. ■



Фота Мікалая Супруна.

Сулейман Байрашэўскі на месцы здарэньня раніцай 10 жніўня

# Напад на мячэт

***Позна ўвечары 9 жніўня невядомыя ўчынілі акт вандалізму ў слонімскім мячэце***

Каля 10 гадзін вечару хтосьці пабіў вокны мячэту, які знаходзіцца ў Слоніме каля каналу Агінскага на аднайменнай вуліцы. Пасьля невядомыя спрабавалі трапіць праз адно з вокнаў у будынак, але вандалаў спынілі краты. Выкліканая суседзямі міліцыя злачынцаў не затрымала, бо яны пасьпелі ўцячы...

Старшыня слонімскага аб'яднаньня мусульманаў Сулейман Байрашэўскі лічыць, што напад быў невыпадковым, бо адбыўся якраз напярэдадні зьезду татарскай моладзі Беларусі ў Слоніме. Мясцовыя мусульмане рыхтаваліся адзначыць і пяцігодзьдзе аднаўленьня слонімскага мячэту. Відавочна, хтосьці вырашыў сапсаваць ім сьвяточны настрой.

С.Байрашэўскі адзначыў і дзіўныя дзеяньні міліцыянтаў, якія пасьля здарэньня нават не апытвалі суседзяў. А начальнік слонімскай міліцыі Батура быў незадаволены тым, што мусульмане напярэдадні разрэклямавалі свой зьезд у мясцовай прэсе ды "завалілі будынак дыванамі"...

Татары жывуць у Слоніме ўжо чатыры стагодзьдзі. Іх старажытны мячэт згарэў летам 1944 году, і на пачатку 1990-х гадоў, калі ў горадзе актывізаваліся мусульмане, на тым месцы ўжо стаяў прыватны дом. Тады яны папрасілі гарвыканкам выдзеліць пад мячэт занядбаны будынак на вуліцы Агінскага. Не далі. Тады мусульмане зьвярнуліся ў Вярхоўны Савет Беларусі, які ў чэрвені 1994 году й перадаў ім гэты будынак. За тыдзень верныя ўласнымі сіламі зрабілі рамонт, і мячэт пачаў працаваць. Цяпер яны ізноў усёй грамадкай адна́ўляюць сваю бажніцу.

Сяргей Ерш

---

Вадзім КАРЦАЎ

# АДУКАЦЫЯ Й ПАЛІТЫКА



З тым, хто скажа, што адукацыя й палітыка — паняцьці, не зьвязаныя наўпрост, хто думае, што адукацыя па-за палітыкай, спрачацца ня стану. У ідэале можа яно й так: калі б правіцелі й кандыдаты на іхнае месца не краналі сьвятога, кшталту царквы ды школы, дык хоць нешта, нейкія грамадзкія інстытуцыі, функцыянавалі б у трэцім тысячагодзьдзі паводле традыцыяў і гістарычнага досьведу, а не на падставе кан'юнктурнага інтарэсу нейкіх асобаў, вельмі да таго ж нестабільных, прыкладам, наш узурпатар.

Адылі, магічная прывабнасьць слова «рэформа» не дае спакою сыстэмам асьветы па ўсёй плянэце: ад Злучаных Штатаў, дзе Біл Клінтан ішоў да перамогі на выбарах і ўладарыў першы тэрмін пад сьцягам тае рэформы, да Беларусі, дзе Лукашэнка ладны кавалак свайго славутага рэйтынгу набыў, вызваляючы бацькоў ад *гвалтоўна насаджанай* іхным дзецям беларускай мовы навучаньня.

Дарэчы, і тут Беларусь выглядае ўнікальнай краінай. Паўсюль спрэчкі пра адукацыю палягаюць у рамках «платная – бясплатная» і «абавязковая – неабавязковая», а ў нас менавіта мову навучаньня, бы мечам, сякуць палітычных апанэнтаў.

Хай даруюць тэарэтыкі адраджэньня, але, на мой погляд, далёка ня мова навучаньня фармуе нацыянальную самасьвядомасьць, бо навучаньне — гэта найперш аваладваньне інфармацыяй, а ня духам. Наперадзе павінна стаяць якасьць ведаў. Рабіць са школы вялізны нацыяналістычны клюб у часы інтэрнэту й камунікацыйнае рэвалюцыі выглядае анахранізмам. Якая мова самая папулярная ў навуцы й культуры, на той і трэба вучыцца, каб не адгароджвацца ад цывілізацыі. Зрабіць беларускую абавязковым прадметам ад першае клясы да чацьвертага курсу з пэрыядычным жорсткім тэставаньнем — на цяперашнім этапе было б болей чым дастаткова. А вось у перадвыбарчай барацьбе паабяцайце пераводзіць школы на... ангельскую, галасоў прыдбаеце ці не найболей: я дык першы, усьведамляючы непазьбежнасьць глябалізацыі, скажу «за» магутнай альтэрнатыве расейшчыне без намёку на ўшчымленьне беларускасьці.

Годзе пра мову, важней высьветліць, за чые грошы й колькі гадоў найлепей вучыцца.

Сама прырода некаторых галінаў эканомікі, нягледзячы на надзвычайную важнасьць, разумее іхную выключанасьць з сфэры свабоднага прадпрымальніцтва: экалёгія, вялікая навука, асваеньне космасу, будаўніцтва дарог і трубаправодаў, рэстаўрацыя помнікаў дойлідзтва... Інвэстыцыі ў гэтыя галіны нерэнтабельныя, у лепшым выпадку грошы вяртаюцца толькі праз дзесяцігодзьдзі, увесь прыбытак спажываецца не абазначанымі сёньня нашчадкамі. Адной з такіх галінаў ёсьць адукацыя.

Толькі тады чалавецтва перадолела непісьменнасьць, а тэхнічны прагрэс набыў незваротную дынаміку, калі веды сталі агульнадаступнымі й гарантаванымі дзяржавай.

Адзінае, чым можа пахваліцца платная адукацыя – індывідуальны падыход да навучэнца, але ці так гэта важна, калі канцавым прадуктам усяе сыстэмы мусіць быць сярэдні ўзровень IQ цэлай нацыі дзеля еўнае канкурэнтаздольнасьці сярод іншых.

Калі сапраўды дбаць пра дабрабыт народу, дык трэба зрабіць абавязковаю дзесяцігадовую сярэднюю адукацыю, а вышэйшую, у тым ліку недзяржаўную, ставіць на датацыі дзеля шырэйшае даступнасьці. Гэта не сацыялістычная практыка. Наадварот, калі ў 1979 годзе ў Вялікабрытаніі кансэрватыўны ўрад Маргарэт Тэчэр, прыйшоўшы да ўлады, распачаў шырокую прыватызацыю, якая да канца 80-х сягнула тых сэктараў, якія раней ня марылі прыватызавацца і самыя правыя з ангельскіх палітыкаў, напрыклад, водазабесьпячэньне й каналізацыя, дык у адносінах да сыстэмы адукацыі праводзілася адваротная палітыка – нацыяналізацыя – паступовае гаспадарчае й адміністратыўнае падпарадкаваньне дзяржаве й пераход на бюджэтнае фінансаваньне. Сёньня тамтэйшая адукацыя — прыклад для ўсяго сьвету.

А што датычна тэрміну навучаньня, дык дванаццацігадовы, на які хочуць перавесьці нашу школу, — далёка ня дбаньне пра здароўе й вольны час дзяцей. Гэта дбаньне пра вольны час юнакоў, якія, выйшаўшы з-за парты ў 16 гадоў, ня могуць знайсьці сабе працы. Заняць чымсьці моладзь, як мага даўжэй трымаць яе на бацькоўскім карку, бо новых рабочых месцаў у краіне няма й не прадбачыцца – вось галоўная прычына падаўжэньня тэрміну. Праз гэткія хітрыкі спрабуюць зьнізіць яшчэ і ўзровень моладзевай злачыннасьці, трымаючы хлопцаў пад каўпаком і на танным пайку школы й войска да дваццаці гадоў, не пакідаючы часу для самастойнага жыцьцёвага выбару.

Цьвяроза перагледзеўшы праграмы, можна скараціць сярэдняе навучаньне да вышэй памянёных дзесяці гадоў: і дзяржаве таньней будзе, і вызваленыя грошы можна пусьціць на тое ж самае датаваньне недзяржаўных ВНУ. ■

вескі зь Літвы

### Саламяная мяжа

Дырэкцыя нацыянальнага парку ў Троках усталюе памятныя знакі на лініі той мяжы, што праходзіла ў міжваенны час, калі Вільня належала да Польшчы і лічылася сталіцай Заходняй Беларусі, а сталіцай Літвы было Коўна. Знакі будуць такія самыя, як і тады, у 1920—1939 гадох — драўляныя палкі з начапляным на іх пуком саломы. Увогуле літоўцы ня любяць згадваць, што Вільня калісьці ім не належала, але тут во чагосьці надумаліся (свая ўсё ж гісторыя) і адразу заклікалі — не ўглядаць у гэтым ніякай палітыкі!



### Пачалі сплочваць доўг

Кіраўнікі акцыйнага таварыства «Lietuvos energija» паведамілі, што ўрад Беларусі пачаў сплочваць Літве доўг за электраэнэргію. З паловы ліпеня літоўцы ўжо атрымалі каля 31 млн. літаў ($7,75 млн.), і на 11 жніўня доўг складаў крыху больш за 365 млн. літаў ($91,25 млн.). А яшчэ пішуць, што Беларусь працягвае атрымліваць літоўскую электрычнасьць, толькі нейкімі вакольнымі шляхамі.

### Гандляры бунтующца супраць беларусаў

Гандляры на рынку ў Алітусе сабраліся на пікет і пратэстуюць, што шмат тавараў паступае сюды зь Беларусі, а іх фактычна выцясьняюць з рынку. Вінаватыя ва ўсім, кажуць, умовы гандлю. Беларусам разавая ліцэнзія каштуе нашмат меней, чым літоўцам гадавая. Да таго ж многія тавары ідуць кантрабандай, міма мытні і каштуюць нашмат менш, чым літоўскія. І так ва ўсёй паўднёвай Літве. У Друскеніках людзі ўжо рынак называюць Лукашэнкаўскім. Дык пікетоўцы склалі рэзалюцыю, у якой патрабуюць, каб спынілі выдачу часовых ліцэнзіяў замежнікам і каб правяралі паходжаньне беларускіх тавараў — дзе і як яны правезеныя праз мяжу.

С.Х.

# БЭНІЛЮКС НА БАЛКАНАХ

***Джордж Сорас ужо не адносіць Харватыі і Босьніі да балканскага рэгіёну***

*Джордж СОРАС*

Што зрабіць, каб замарудзіць працэс распаду балканскай супольнасьці, тым больш уражвальны, што мы назіраем, як аб'ядноўваюцца іншыя краіны Эўропы? Ня могуць жа заганы NATO вечна стаяць між учорашнімі суседзямі, а сёньняшнімі ворагамі — сэрбамі і альбанцамі. Таксама ня можа ж кожная этнічная група мець асобную дзяржаву, што раздрабіла б мапу Эўропы на дробныя лапікі.



Выйсьця я шукаю каля маёй ідэі адкрытага грамадзтва, ідэі, на рэалізацыю якой я аддаў шмат сілы й грошай. У сваіх пошуках я скарыстаўся з напрацовак брусэльскага Цэнтру Дасьледаваньняў Эўрапейскай Палітыкі. Яно сыходзіць з той вядомай тэзы, што народы, якія гандлююць між сабой, не ваююць між сабой. Таму трэба схіліць дзяржавы-суседзі да больш інтэнсыўнага гандлёвага абмену. Я прапаную стварыць мытны саюз (нешта накшталт Бэнілюксу) на абшарах цяперашніх Югаславіі, Альбаніі, Баўгарыі, Румыніі і нават Малдовы. Неразьвітасьць інфраструктуры і росквіт карупцыі сёньня прыводзяць да таго, што, напрыклад, каб пераехаць з Румыніі ў Баўгарыю мостам цераз Дунай, трэба тыдзень прастаяць у чарзе.

Пры ўвядзеньні мытнага саюзу, ясна, дзяржбюджэты балканскіх краін страцяць мытных паступленьняў прыкладна на 5 мільярдаў эўраў. Гэтыя страты ім магла б кампэнсаваць Эўрапейская камісія — але не аўтаматычна, а ў залежнасьці ад посьпехаў у справе дэмакратызацыі і пераходу на рынкавую мадэль гаспадаркі. Гэта вельмі далікатны пункт у маім пляне: Эўрасаюз, беручы на сябе цяжар субсыдыяваньня гэтых краінаў, адначасова мусіць займець права ацэньваць іх — што можа прывесьці да пратэсту ўражанага нацыянальнага гонару супраць абмежаваньня сувэрэнітэту. Але ніхто нікому не дае грошай за так.

Я ведаю, што Польшча, як і іншыя краіны зь першай групы кандыдатаў на ўступленьне ў Эўрасаюз, пабойваецца, што ў Балканы Эўропа будзе гаціць тыя грошы, якія былі б пайшлі ім. Гэта ня так. На бэрлінскай сустрэчы кіраўнікоў краінаў Эўрасаюзу было вырашана зарэзэрваваць сумы, прызначаныя для краінаў-кандыдатаў, выключна на гэтыя мэты.

Наўрад ці вялікай праблемай будзе знайсьці пару дадатковых мільярдаў эўраў. Свае прапановы я падмацоўваю дзеяньнем: мае фундацыі ў гэтых краінах гатовыя фінансаваць прадпрыемствы, і мы пачалі ўжо гэта рабіць у Альбаніі.

Краіны балканскага Бэнілюксу мелі б лепшыя сыходныя пазыцыі для разьвіцьця партнэрскіх дачыненьняў з Эўрасаюзам, а ў пэрспэктыве і для ўваходжаньня ў яго. Справу аднак трэба рухаць наперад у розных тэмпах: найперш можна лібэралізаваць абмен ідэямі, таварамі — спачатку толькі ўнутры рэгіёну, а са свабодным перамяшчэньнем людзей пакуль лепш пачакаць.

«Polityka», Польшча

*Сяргей РАДШТЭЙН*

# ТРЫ КАГЭБІСТЫ

На пачатку тыдня мы пабачылі чарговую мэтамарфозу расейскае ўлады. Зірнуўшы на ўсе расейскія пасавецкія ўрады, можна ўбачыць і асноўныя рысы сёньняшняй Расеі. Быў «дэмакратычны», ідэйны ўрад Гайдара, далей Чарнамырдзін, Кірыенка, а потым пайшлі гэбэшнікі: кансэнсусны Прымакоў і Сьцяпашын. Цяпер жа да прэм'ерства прыйшоў чарговы прадстаўнік спэцслужбаў — Пуцін. Падобна, ня будзе асаблівых зьменаў у курсе расейскага ўраду, а хутчэй давядзецца адзначаць, што яго надалей усё больш вызначае асоба, а ня нейкая стратэгія. Новы прэм'ер — інструмэнт у барацьбе з Лужковым, які даказаў сваю адданасьць прэзыдэнту, сабраўшы кампрамат на колькіх ягоных ворагаў ды зьнішчыўшы аналягічныя матар'ялы на сям'ю Ельцына. Дарэчы, на ўсіх асноўных палітычных праціўнікаў сёньняшняга прэзыдэнта РФ так ці йнакш заведзеныя крымінальныя справы.

Увесь час зьмянялася матывацыя й падтрымка насельніцтвам зьменаў урадаў — ад зусім пэўнай (з Гайдарам) да яе адсутнасьці апошнім разам. Усё зьмянялася паралельна з краінаю ды здароўем прэзыдэнта. Цяпер ён хворы, а краіна імкліва выходзіць з-пад кантролю і дэзынтэгруецца. Ельцын у паніцы робіць спробы нешта зрабіць, але складаецца ўражаньне, што зрабіць найперш для свайго кляну, таму й звальне ў самы час барацьбы з Лужковым незразумела нэўтральнага Сьцяпашына. Праўда, той не прыняў дастатковых мераў і ня змог запазьбегчы далучэньня губэрнатараў да Лужкова, а апошнім часам і недастаткова ляяльна ставіўся да ельцынскага «кляну», і яго зьнялі, пакуль ён не ўзмацніўся. Многія цяпер разглядаюць адстаўку Сьцяпашына ў кантэксьце барацьбы кляну Ельцына й Лужкова.

Пасьля апошніх падзеяў Захад усумніўся ў тым, што Ельцын яшчэ зьяўляецца бацькам расейскай дэмакратыі. Яны расчараваліся ў Расеі ўвогуле, бо, як высьветлілася на мінулым тыдні, у гэтай краіне нават Дзяржбанк займаецца махлярствам, перакачваючы заходнія крэдыты ў кішэні алігархаў. Эўрапейцы і амэрыканцы клапоцяцца адно пра ядзерную зброю, імкнучыся датрымаць яе ў бясьпечным стане хаця да 2010 г., калі яна папсуецца сама, ды пра тое, каб не вярнуліся камуністы. Нядаўні мільярдны заходні крэдыт, які называюць заслугай Сьцяпашына, далі б у любым выпадку.

Зьмена прэм'ераў прымушае згадаць ужо забытую зьяву «врэменшчычаства», бо ўва ўсіх іх маецца нязьменнае адчуваньне часовасьці й нетрываласьці становішча. Той-сёй нават прама параўноўвае сёньняшнюю Расею з Расеяй сярэдзіны XVIII ст.

Да ўлады падыходзяць людзі, так ці йнакш зьвязаныя са спэцслужбамі, што ніяк не спрыяе дэмакратыі. Нешта падобнае можна ўбачыць хіба ў аўтарытарных краінах арабскага сьвету — там таксама спадчыньнікаў трону школяць у сілавых міністэрствах. Прымакоў займаўся выведкай, Сьцяпашын контрвыведкай, ну а апошні кадар нават быў сапраўдным віжом у Нямеччыне, а пасьля займаўся дзяржкантролем. ФСБ падначалена беспасярэдне прэзыдэнту РФ і цяпер пастаянна пастаўляе яму кадры. А гэбэшнік — ён усюды гэбэшнік з адпаведным стылем працы. ФСБ, падобна, ператвараецца ў нешта кшталту «Сэкурытатэ» за Чаўшэску.

Пуціна назвалі й пераемнікам, але асаблівага ў гэтым нічога няма — некалі ж пераемнікам ужо быў і Нямцоў, і многія іншыя. Ды й прэзыдэнцкая рэкляма малаабартая, ды яшчэ цяпер, калі ўсе губэрнатары прылучыліся да Прымакова ды Лужкова (дарэчы, асабістага ворага Пуціна). Сьцяпашын, мабыць, пойдзе з правымі, а з кім пойдзе фаварыт?

Цікава, што чалавек, які «зрабіў» ельцынскую перамогу ў 1996 годзе — Лісоўскі — цяпер заняты падрыхтоўкай да выбараў найнебясьпечнейшага ворага партыі ўлады — Лужкова. Падобна, у 2000 годзе расейцам давядзецца выбіраць між двума ці трыма гэбэшнікамі. Праўда, некаторыя расейскія газэты пішуць: «Пуціна паставілі прэм'ерам не каб пасьпець за паўгады яго раскруціць на прэзыдэнта, а каб ён пасьпеў адмяніць выбары». Існуе дзьве магчымасьці гэта зрабіць: або ўвесьці надзвычайнае становішча з-за Дагестану або прысьпешыць інтэграцыю зь Беларусяй і праз тое зьмяніць канстытуцыйны лад. Апошні варыянт асабліва небясьпечны для нас, бо тут інтарэсы ельцынскай партыі зьбягаюцца з інтарэсамі Лукашэнкі, і праз тое ён атрымае таксама магчымасьць уключыцца ў расейскую палітыку.

Праўда, яму давядзецца змагацца з маладзьздзю, а не з паўмёртвым Ельцыным, і гэта моцна аслабляе ягоныя пазыцыі. Самы спрыяльны момант для Лукашэнкі ўжо прайшоў. ■

з Дагестану

### Маджліс засядае

14 жніўня ў Джахары адбылося пасяджэньне Маджлісу мусульманаў Чачэніі й Дагестану пад старшынствам намесьніка аміра Маджлісу Маўладзі Удугава. На пасяджэньні парадавалiся, што праваліліся спробы арганізаваць атрады апалчэнцаў Дзяржрады Дагестану. Сябра Маджлісу Сіражудзін Ахтаеў распавёў, як у гэтае «добраахвотнае апалчэньне» пад пагрозаю звальненьня змушаныя былі запісвацца дырэктары заводаў, кіраўнікі падатковых службаў і намэнклятура.

### Запеклыя баі

За апошнія трое сутак у выніку баёў толькі ў Батліхскім раёне загінула 2 маджахеды, паранена 3, паведаміў Шаміль Басаеў. Ад пачатку баявых дзеяньняў дагестанцы страцілі 10 чалавек забітымі й 23 параненыя на Батліхскім накірунку. 9 маджахедаў загінулі й 12 параненыя на Цумадзінскім накірунку. У расейцаў загінулі ды параненыя за гэты час да 130 чалавек. Зьнішчаныя 9 верталётаў і самалёт СУ-25.

### Мерацца забраць аэрадром

Маджахеды кантралююць 14 сёлаў Батліхскага й 5 сёлаў Цумадзінскага раёнаў. Учора на сьвітаньні баі адбыліся на подступах да аэрадрому Батліх — дагестанцы правялі разьведку боем.

### Расейскі афіцыёз

А як паведамляюць афіцыйныя ўлады ў Махачкале, 15 жніўня загінулі 60 маджахедаў з атраду Шырвані Басаева. Іх нібыта засыпала жыўцом у выніку штучнага камняпаду ў Батліхскім раёне. Пра гэта «Інтэрфаксу» паведамілі ў каардынацыйным цэнтры інфармацыйнага забесьпячэньня ўраду Дагестану.

### Чачэнія мабілізуецца

Ад сёньня ў Чачэніі ўводзіцца надзвычайнае становішча.

Сёньня ж адбудзецца пасяджэньне Ваеннае Рады аб'яднанага камандаваньня ўсіх дагестанскіх маджахедаў. На ім абмяркуюць гатовасьць атрадаў да другога этапу апэрацыі па вызваленьні Дагестану ад расейскай акупацыі пад кодавым назовам «Гамзат-бэк». Дэталі гэтай апэрацыі пакуль невядомыя. Аднак пэўна, што гэта будзе найбольш складаны па пастаўленых задачах і найбольш доўгі па тэрмінах выкананьня этап, камэнтуе прэс-цэнтар аб'яднанага камандаваньня дагестанскіх маджахедаў.

Г.П.

# СЦЭНАРЫ ДЛЯ ДАГЕСТАНУ

*Працяг са старонкі 1.*

## Хто ваюе ў Дагестане

Хто ваюе ў Дагестане і за што? Ісламскія палітычныя рухі нарадзіліся тут пры канцы 80-х. Гэта была натуральная рэакцыя на распад камуністычнае ідэалёгіі. У Дагестане звыш 30 карэнных народаў, а таму іслам з арабскай моваю доўга выконваў ролю галоўнага злучніка іх усіх. У сярэдзіне 90-х, у зьвязку з вайною ў Чачэніі, адбылося канчатковае размежаваньне ісламскіх рэлігійных рухаў на радыкальную (вахабіцкую) і традыцыяналісцкую плыні. Вахабіты прапагандуюць «дзейны» і «чысты» іслам, што вельмі падобна на некаторыя пратэстанцкія плыні ў хрысьціянстве. Маўляў, штодзень трэба стаяць на варце веры і даводзіць сваю веру канкрэтнымі ўчынкамі. Галоўная вахабіцкая арганізацыя — Ісламскі Джамаат Дагестану, кіраўніцтва якога з канца 1997 году спрабуе супрацьстаяць і дагестанскім уладам, якія не зьмяніліся з савецкіх часоў, і расейцам, якія несупынна пашыралі сваю мілітарную прысутнасьць у краі — значэнным рэгіёне для транспартоўкі каспійскай нафты. Кіраўніцтва Джамаату карыстаецца актыўнай падтрымкаю з боку баявых камандзіраў Ічкерыі (аль-Хатаба, Шаміля Басаева, Салмана Радуева). Зь верасьня 1998 году баявы штаб Джамаату знаходзіцца на тэрыторыі Чачэніі.

Тут варта растлумачыць, што сярод тубыльцаў Дагестану ёсьць і этнічныя групы чачэнцаў. Жывуць карэнныя чачэнцы-акінцы тут у некалькіх раёнах, найперш у самым дзікім і бязводным, Хасаўюрцкім. Гэтыя этнічныя групы не былі дэпартаваныя ў 44-м годзе, а таму як найлепей захавалі сваю этніку, традыцыі і фальклёр. Таму ўзаемны ўплыў чачэнцаў Дагестану і Ічкерыі цалкам натуральны. Дарэчы, і аль-Хатаб чачэнец, толькі зь Ярданіі, дзе чачэнцаў жыве больш за 5 тысячаў — нашчадкаў заможнае арыстакратыі, што эміґравалі ад бальшавікоў.

У сакавіку 1999 году аміры (чальцы) Джамаатаў Дагестану і Ічкерыі абвесьцілі пра пачатак газавату (сьвятой вайны). У Буйнацкім, прыгорным раёне Дагестану, існуе Ісламская тэрыторыя, абвешчаная Джамаатамі чачэнскіх аулаў Карамахі і Чабанмахі. Тымчасам на гэтай тэрыторыі вахабіцкая Шура (ісламская Рада) увяла дзеяньне законаў шарыяту. І гэта пачало падабацца суседзям чачэнцаў — кумыкам, якіх у Дагестане чвэрць мільёну і якія падзяляюцца на тры народнасьці. Кумыкаў ачольвае вялікая й энэргічная палітычная арганізацыя — Кумыцкі народны Рух «Тэнглік», на чале якога стаіць вядомы навуковец і грамадзкі дзяяч прафэсар Салаў Аліеў. Прадстаўнічым ворганам кумыцкае нацыі стаў Мілі Мэджліс — Народная Рада, які фактычна прымыкае да «Тэнглік». Яны патрабуюць спыніць міграцыю горцаў на іх этнічныя землі ў стэпах і перадгор'ях Кумыкстану (Кумыцкая раўніна), а таксама прапагандуюць фэдэралізацыю самаго Дагестану і стварэньне кожнаму этнасу сваіх аўтаноміяў. Кумыкі абгрунтавана даводзяць, што прамаскоўскае кіраўніцтва ў Махачкале дзейнічае выключна ў інтарэсах «першых» народаў — аварцаў ды даргінцаў, абыходзячы ўвагаю астатнія народы. З гэтае прычыны кумыкі знаходзяцца ў радыкальнай апазыцыі да посткамуністычных уладаў, стаўшы тактычнымі саюзьнікамі ісламістаў-вахабітаў.

Блізкая сытуацыя і з лакцамі, якія маюць Лакскі народны рух «Казікумык», на чале якога стаіць былы міністар сельскае гаспадаркі Дагестану Магамэд Хачылаеў. Пасьля яго адстаўкі і арышту большасьць лакцаў знаходзіцца ў глухой апазыцыі да афіцыйнае Махачкалы і актыўна падтрымліваюць любыя антыўрадавыя выступленьні.

Калі ж дадаць, што, напрыклад, тыя ж даргінцы падзяляюцца на дзьве асноўныя народнасьці, якія гавораць на 15 дыялектах, палова зь якіх мае традыцыі пісьмовасьці, дык можна толькі ўявіць, якія праблемы ўзяўся развязваць за пару тыдняў новы расейскі прэм'ер...

## Гэта Каўказ

«Памяркоўнае» крыло вахабітаў стварыла Ісламскі культурны цэнтар «Каўказ», старшыня якога Магамэдшалі Джагшыеў быў запрошаны ў прэс-сакратары Джамаатаў аулаў Карамахі і Чабанмахі. Цэнтар «Каўказ» мае свой сайт у Інтэрнэце (www.kavkaz.org), які ператварыўся фактычна ў інфармацыйны цэнтар маджахедаў Дагестану і паведамляе сёньня бягучую інфармацыю з вайны — сайт вельмі прыгожы, прафэсійны і абнаўляецца кожныя 15 хвілінаў. Робяць яго на месцы, там, дзе былі апошнія апірышчы Шаміля ў XIX ст. і адкуль цяпер, падобна, можа пачацца спраўкаваная Масквой вайна за нацыянальнае вызваленьне. Дарэчы, ячшэ з восені 1998 году вахабітаў вельмі моцна і адкрыта падтрымоўвае Саюз мусульманаў Расеі, цэнтар якіх у Маскве. Яго ачольвае буйны бізнэсмэн, колішні навуковец, Надыршах Хачылаеў, дэпутат Думы, былы сябар НДР («Наш дом — Расея»)...

Пакуль вахабітам супрацьстаяць (дакладней, агітуюць за нэўтралітэт) памяркоўныя ісламскія групы розных народаў Дагестану, якім пакуль давярае ўрад у Махачкале і «афіцыйнае» сьвятарства на чале з Духоўным упраўленьнем мусульманаў Дагестану, што не зьмянілася з часоў СССР. Да сярэдзіны 90-х асноўнай міжэтнічнай памяркоўнай ісламскай сілаю была Ісламская дэмакратычная партыя Дагестану, якая, аднак, вылучалася скрайнім антыкамунізмам. Аднак, калі ў яе кіраўніцтве ўзялі верх аварскія нацыяналісты, яе ўплыў на агульнадагестанскія працэсы зьменшыўся. Зь сярэдзіны 90-х гадоў вылучылася Ісламская партыя Дагестану, старшыня якое Сукарат Асіятылаў увадначасьсе ачольвае парлямэнцкі камітэт па міжнацыянальных адносінах і замежных сувязях. Але абедзьве гэтыя партыі выступаюць за культурную ізаляцыю Дагестану ад Расеі і за сынтэз дэмакратычных дзяржаўных інстытутаў з ісламам, на ўзор некаторых арабскіх краеў. Абедзьве партыі ўвайшлі ў сакавіку 1999 году ў рух Усерасейскі ісламскі кангрэс. Калі вайна зацягнецца на больш тэрмін, дык яе спыненьня будзе гучна й дзейсна патрабаваць менавіта гэтая ўплывовая агульнарасейская арганізацыя. А тады расейцы апынуцца ў самым горшым становішчы — злога й няўхільнага супрацьстаяньня з усімі сваімі мусульманамі.

## Што будзе далей?

Што будзе далей, калі Пуцін не стрымае свайго слова і вайна зацягнецца? Невыпадкова Сяргей Сьцяпашын, які меў немалы апэратыўны і баявы досьвед на Каўказе, абмовіўся, што Дагестан Расея, бадай, згубіць. Тады будзе мець рацыю Шаміль Басаеў, які паабяцаў увосені вызваліць ад акупацыйных войскаў трэць Дагестану. Ён меў на ўвазе ўвесь горны Дагестан, у якім жывуць родная чачэнцам народы і тыя народы, якія гатовыя іх падтрымаць супраць махачкалінскае намэнклятуры і ельцынскае Расеі. Што будзе тады? Тады яны змогуць падаць іншаму Дагестану прыклад таго, што іхная ўлада, абапертая на традыцыйныя і ісламскія каштоўнасьці, больш эфэктыўная, некарумпаваная (бо ўжо цяпер парадак у вахабітаў проста ідэальны: мужчыны зарабляюць найболыш перавозкай грузаў, кожная сям'я мае аўтафургоны, кіроўцы-вахабіты зьняважлівыя расейскім гаішнікам тым, што прынцыпова не даюць хабару). Тым самым яны заваююць давер тых народаў, якія цяпер іх пабойваюцца.

Што маглі б зрабіць расейцы? Спыніць бессэнсоўную бамбардоўку гораў, заняць абарону і абаперціся на традыцыйных супернікаў чачэнцаў — аварцаў ды даргінцаў, якія разам складаюць пад палову насельніцтва. І зноў сесьці за адзін стол з Басаевым... Выканаць хоць бы частку сваіх абяцанкаў у дачыненьні да Чачэніі (аднавіць населеныя пункты, выплаціць кампэнсацыі, спыніць эканамічную блякаду). Перастаць раздаваць там зброю налева й направа...

Праўда, гэты сцэнар пагражае вялікімі расейскімі закалотамі, а магчыма й вайсковым путчам урэшце. Але інакш Расеі прыйдзецца абцерціся ганьбай чарговай ваеннай паразы.

**Гары Куманецкі**


*У наступе разам з маджахедамі.*


*Стары лакец з унучкаю*

# УСЕ КОЛЕРЫ

Насельніцтва Дагестану адзначаецца надзвычайнай стракатасьцю складу, але ў цэлым — адзінствам звычаяў, вынікам тысячагодзьдзяў сумеснага жыцьця. Большасьць мае пісьменства на аснове кірыліцы (ад 1938 году, гістарычна ж яны карысталіся арабскай графікай). Дагестанцы — мусульмане-суніты, хаця й захавалі рэшткі паганства. Большасьць зь іх пад кіраўніцтвам Шаміля зацята баранілася ад расейцаў у XIX ст. Вялікую колькасьць дагестанцаў гвалтоўна перасялялі ў 1944 на землі дэпартаваных чачэнцаў, але ў 1957 годзе вярнулі на радзіму. Нацыянальная інтэлігенцыя і прафэсійная культура сфармаваліся ў аварцаў, даргінцаў, лакцаў, лезгінаў, татаў, цахураў, арчынцаў.

**АВАРЦЫ.** Найбольшая этнічная група ў Дагестане — аварцы (саманазва — маарулал), якіх каля 500 тыс. чалавек. Жывуць найбольш ва ўнутрыгорнай і альпійскай зонах, толькі ў 1940—60 г. колькі іх перасялілася на раўніну. Продкаў аварцаў ведаюць з 2-й паловы І тысячагодзьдзя да н. э. і некаторых зь іх згадваў Пталемей — іх атаесамляюць з плямёнамі легаў, гелаў, касьпіеў, утыеў. Яны маюць уласныя традыцыі дзяржаўнасьці ад V ст. — царства Сэрыр. Пазьней аварцы ўваходзілі ў склад Аварскага й Мэхтулінскага ханстваў (утвораных у XVIII ст.) і шматлікіх (каля 40) вольных грамадаў. Агульная юрыдычная сыстэма й палітычная кансалідацыя аварцаў спрыяла выпрацоўцы ў іх т.зв. г'оболмацi («мова госьця» або болмацi, «мова войска»), пакладзенага ў аснову літаратурнай мовы (пісьмовасьць на арабскай графіцы з XVIII ст., іслам з XV ст.). Традыцыйная прававая сыстэма грунтавалася на аснове шарыяту, але ўплыў мелі й мясцовыя ўстаноўкі-адаты.

Селішчы аварцаў (як і большасьці іншых народаў) высока ў горах, на вяршынях хрыбтоў і скальных уступаў невялікія, а дзе ніжэй у гарах, большыя — там яны звычайна туляцца ля рачулак, на схілах і краях абрываў (300—500 хат). Селішчы арыентаваныя на поўдзень. Забудова скупчаная. Будынкі стаяць разам і ўтвараюць суцэльную сьцяну ўздоўж вуліцаў, якія іншым разам маюць дах і нагадваць тунэлі. Вуліцы вузкія, крывыя. Многія вёскі мелі баявыя вежы, часта злучаныя падземнымі хадамі. Традыцыйныя будынкі 1-, 2-, 3-павярховыя — з каменя, з пляскатым земляным дахам, прычым зза рэльефу дах адной хаты можа быць часам падворкам другой. Або 4-5-павярховыя вежападобныя з уваходам на кожным паверсе, а таксама дамы-крэпасьці зь вежай. Тыповае дагестанскае жытло сучаснага тыпу — адна- ці двухпавярховае і накрытае ўжо шыфэрам ці бляхай ды з зашклёнай тэрасай або галерэяй.

Традыцыйная вопратка аварцаў зьбольшага агульная для ўсяго Дагестану. У мужчын — сарочка, падобная да грэцкай тунікі, штаны, башмет, чаркеска, папаха, башалык, бурка, скураная дзяга ды й аўчынная шуба. Абутак — скураны, вязаны, з войлаку. У жанчын — штаны, сукенка-сарочка, даўгая сукенка з двайнымі рукавамі, каляровыя накідкі дый на галаве чахто (каптур або башалон зь мяшэчкам для косаў). Аснова харчаваньня — мясное й мучное з часныком і малочныя стравы.

Сацыяльная арганізацыя, як і ў большасьці іншых народаў, грунтуецца на аснове тухумаў (патрыярхальных крэўнародных аб'яднаньняў, унутры якіх моцная салідарнасьць — прычым блізкім сваяцтва лічылася іншы раз да чацьвертай стрэчы), якія аб'ядноўваюцца ў вясковыя грамады і джамааты — аб'яднаньні жывёлаводаў-воінаў. Кварталы часта падзеленыя па тухумнай прыкмеце. Аддавалі перавагу шлюбам у межах радзіны, тухуму, селішча. Сем'і невялікія, а стасункі ў сем'ях вызначаў шарыят. Існавалі й мужчынскія саюзы. Грамадзкае жыцьцё рэгулявалася звычаямі тухумнай салідарнасьці, сваяцкай і суседзкай узаемадапамогі, сьвятаў, павагі да старэйшых, гасьціннасьці, кунацтва, аталыцтва (то бо аддачы малетніх дзяцей на выхаваньне ў іншыя сем'і). У склад аварцаў некаторыя дасьледнікі схільныя ўключаць шэраг малых народаў, напрыклад чамалалаў.

Наступнымі па колькасьці пасьля аварцаў зьяўляюцца даргінцы (280 тыс.), кумыкі (232 тыс.), лезгіны (205 тыс.), лакцы (95 тыс.), табасараны (80 тыс.), нагайцы (28 тыс.).

**ДАРГІНЦЫ** вядомыя сваімі цудоўнымі рамеснымі вырабамі, найперш зброяй і кляйнотамі з аулу Кубачы, аздобленымі своеасаблівым расьлінным арнамэнтам, раламі з Харбуку, клінкамі — з Амузгоў, разным каменем з Сутбука і Хаалая, сукнамі — з Хад-

жалмахі, саф'янам і жаночым абуткам з Губдэну, глякамі з Сулеўкенту і г.д. Якая разнастайнасць у невялічкай зямлі! Якая самадастатковасьць! І якая «якасьць жыцьця», калі людзі жывуць больш чым па 100 гадоў! Гістарычна на тэрыторыі даргінцаў знаходзілася такое дзяржаўнае ўтварэньне, як Кайтагскае ўцмілства (цяпер існуе этнас кайтагцаў, якіх частка дасьледнікаў лічыць субэтнасам даргінцаў — гэтыя кайтагцы, як ніхто іншы, гатуюць «мусты», віно з кіпячонага вінаграднага соку), а таксама самаўпраўныя саюзы сельскіх грамадаў (досьвед, у нечым аналягічны эўрапейскім вольным гарадам). У асобны этнас часам выдзяляюць і жыхароў аулу Кубачы (уявіць сабе, каб у нас выдзялілі

# ДАГЕСТАНУ

ў асобны этнас жыхароў Моталю або Гарадной), і гэтаму ёсьць ня толькі моўная, але й гістарычная аснова — у V—X ст. Кубачы былі сталіцай Зырыхгерану, аднаго зь першых дзяржаўных утварэньняў на гэтай зямлі.

**КУМЫКІ** жывуць на раўніне й перадгор'ях, а сфармаваліся як этнас у XII—XIII ст. Частка дасьледчыкаў выводзіць іх ад куманаў, полаўцаў. Большую ролю, чым дзе ў Дагестане, у гэтага народу мела сямейная рада, прычым узначальваць яе магла і жанчына, калі яна старэйшая па веку ў сям'і. Кумыкі гатуюць усякія «стэпавыя» напоі, як айран (кшталту нашай масьлёнкі), шэрбет, а таксама стравы — шорпа, хінкал (род галушак, асноўная страва ва ўсім Дагестане), кюрзэ (пяльмені), долма, халва.

**ЛАКЦЫ**. Як у даргінцаў, у лакцаў асобныя вёскі славяцца сваімі майстрамі ў тым ці іншым рамястве, у тым ліку, што цікава, аулы Кумух і Балкар — залатым і срэбным шытвом, аул Кая — гандлярамі, Кума — кандытэрамі, а Цоўкра — акрабатамі. Паэзія на лакскай мове вядомая з XVII ст. Першыя кнігі, напісаныя расейскай графікай, тут выйшлі яшчэ ў 1860-я гады з ініцыятывы лінгвіста П.Услара.

Найбольш мадэрнізаванымі ў XIX ст. былі лезгіны. Некалі лезгінамі называлі ўсіх дагестанскіх горцаў. Яны маюць цяпер уласную палітычную партыю, што мкнецца да стварэньня асобнага Лезгістану пад эгідай Расеі з далучэньнем да яго тым часам іхняга народу (205 тыс.), што жыве, аддзеленая мяжой, у Азэрбайджане. Лезгіны танцуюць лезгінскі варыянт «лязгінкі», маюць свой эпас «шарвэлі». У іх своеасаблівая архітэктура: каменнае прастакутнае жытло мае пляскаты дах і ўнутраны дварок. Першы паверх займае хлеў, вышэй — жылыя памяшканьні, што выходзяць на галерэю, па якой ідзе лесьвіца. Унутры шмат нішаў і дываноў. У лезгінаў моцна разьвівалася ткацтва (дываны). І яшчэ да 1917 г. яны мелі свой прамысловы пралетарыят на нафтапромыслах. Лезгіны гавораць на мове, што належыць да нахска-дагестанскай групы, але ў Сярэднявеччы часта падпадалі ў залежнасьць да протаазэрбайджанскага Шырвану.

**НАГАЙЦЫ** гавораць на мове цюркскай групы. Іх назва пайшла ад залатаардынскага хана XIII ст. Нагая. За хана Едыгея Нагайская Арда стала незалежнай дзяржавай (пратрымалася XIV—XV ст.). Важным заняткам нагаяў быў гандаль на паўночным адгалінаваньні шляху, які ўжо ня быў ні Вялікім, ні Шоўкавым, але які яшчэ захоўваў гэтую назву. Тыповае жытло нагайцаў — юрта, то бо круглая кібітка. Асёдлыя нагаі жылі ў напаўзямлянках і наземных невялікіх саманных і турлучных дамах. Часта нагаі былі ў няволі ў чачэнцаў і аварцаў. Тыповыя іх стравы — бэшбармак (мяса з локшынай), кавардак (мяса, смажанае з цыбуляй), талтырма (кілбасы), а напоі — кумыс, айран, буза і ёгурт, а таксама «наг'ай шай» (нагайскі чай). З сабой з стэпаў яны прынеслі валатоўскія паэмы (у тым ліку пра Мамая ды Едыгея), лірычныя дэстаны і казацкія песні.

**ТАБАСАРАНЫ** жывуць на паўднёвым усходзе рэспублікі. Маюць сваю пісьмовасьць. Іх культура — пад моцным культурным уплывам лезгінаў і азэрбайджанцаў. У «Армянскай геаграфіі» яны згадваюцца яшчэ ў VII ст. Табасаранцы адрозьніваюцца вельмі паважным стаўленьнем да жанчын у сям'і, пра якіх мужчыну належыць усяляк клапаціцца. Гім, або гадэкан, дзе вырашаліся ўсе грамадзкія справы грамады, гістарычна разьмяшчаўся побач з кузьняй, пасьля ўжо — ля мячэту. Існавалі звычаі пабрацімства, аталыцтва і перадачы дзяцей на пракорм у сем'і заможных сялянаў, каб не галадалі.

Існуе яшчэ шмат меншых народаў. Баі сёньня ідуць найперш у месцах расьсяленьня андыйцаў, ахвахцаў, багулалаў, батліхцаў, гадабэрынцаў, каратынцаў, тындалаў,чамалалаў. Вось сёе-тое пра некаторыя зь іх.

**АГУЛЫ**. Агулаў каля 14 тыс., але яны — гэта тыпова для ўсіх народаў — маюць 5 дыялектаў, і, што таксама тыпова для Дагестану, сярод іх распаўсюджаныя іншыя мовы — лезгінская, азэрбайджанская, расейская. Частку зь іх у 1960-х перасялілі ў Дарбенцкі раён. Адметныя іх вёскі сваімі вуліцамі, часам прыступчатымі, што нагадваюць лесьвіцы.

**АНДЫЙЦЫ** (25 тыс.) (г'ванал). Іх упершыню згадваў Пліній у I ст. н.э. Пабылі хрысьціянамі, ад XIV ст. — мусульмане. У XIV—XV ст. існавала Андыйская шамхальства. Тапаграфія селішча Анды й па сёньня застаецца сярэднявечнай. Маюць своеасаблівы жаночы ўбор «чухту» ў выглядзе паўмесяца, надзяванага рогамі ўніз. Фальклёр (і гэта сустракаецца ў розных народаў) дзьвюхмоўны — па-андыйску й па-аварску.



*Жанчына-аварка зь мястэчка Кубачы*

**АРЧЫНЦЫ** (аршыштыб). Каля тысячы чалавек у басэйне ракі Хатар. У перапісах іх ад 1939 году (як і амаль усе дробныя народы) уключалі ў склад аварцаў. Энцыкляпэдыі пра ўсе такія народзікі паведамляюць: «пісьмовасьць на аварскай мове». У вайне Шаміля ўдзелу ня бралі. Сярод ежы вылучаюцца хінкалы, пяльмені й пляцкі з сырам, яйкамі, дзікім часнаком і крапівай. Сярод іх распаўсюджаны аварскі й лакскі фальклёр.

**АХВАХЦЫ** — 4 тыс. чалавек у Зах.Дагестане. Сярод іх пашыраны таксама кумыцкая — сярод тых, што ў савецкі пэрыяд селі на Кумыцкай раўніне — і аварская мовы (валоданьне мовамі суседзяў характэрна амаль для усіх народаў краіны).

**БАГУЛАЛЫ** (саманазва гантляло, «бедныя людзі, што ядуць сырое мяса»), 5 тыс. чал, адзін з андыйскіх народаў, тых, што займаюць захад Дагестану. Пісьмовасьць, як у астатніх такіх, аварская. У багулалаў, цікава, мужчыны да 40 гадоў галілі галаву, пакідаючы толькі вусы й бараду. Жывуць у аулах, вакол якіх збудаваны вартавыя вежы, а з кожнага кварталу да галоўнай вежы ў цэнтры паселішча падведзены падземныя хады. Шлюбы переважна кузэнныя.

**БЕЖТЫНЦЫ** — 8 тыс. чал. на захадзе Дагестану, адзін з цэскіх народаў. Гавораць таксама на аварскай, грузінскай, гунзібскай, гінухскай (хоць тых гінухцаў — 600 чалавек) мовах. Арабскія географы згадваюць пра іх ужо ў X ст. Яны заўсёды падтрымлівалі цесныя ваенныя і эканамічныя сувязі з Грузіяй, а ў XVI ст. частка зь іх перасялілася ў Грузію.

**БОТЛІХЦЫ** (саманазва буйхадзі) жывуць там, дзе цяпер разгарнуліся самыя крывавыя баі. Іх 6 тыс. чалавек (у 1926 годзе налічылі 3350 чалавек, а ў наступных перапісах уключалі ў склад аварцаў). Цікава, што ботліхцы ведаюць ня толькі аварскую, але й чачэнскую мовы. Маюць сваю пісьмовасьць на аснове кірыліцы, а раней карысталіся аджамскай (паходжаньнем ад арабскай) пісьмовасьцю. Іх традыцыйныя заняткі — садоўніцтва на палівaных землях і ажыўлены гандаль садавінай з Каўказам і Закаўказьзем, а таксама звыклыя для іншых народаў Дагестану земляробства (тэраснае ворыўнае) і жывёлагадоўля (авечкі й козы, коні, аслы). Побач з ботліхцамі жыве яшчэ адзін андыйскі народ — каратынцы. Іхны саюз быў адным з самых значных апорных пунктаў Шаміля. Каратынцы разьмяшчалі аулы так, каб да іх можна было падысьці толькі з аднаго боку, як правіла, па вузкай сьцяжынцы.

**ГІНУХЦАЎ** так мала, бо частка зь іх пасьля разгрому Шамілёва паўстаньня пераехала ў Турцыю або Іран — сувязі зь якімі аж да расейскай акупацыі ўцягвалі ўвесь Дагестан у арбіту ісламскага сьвету і міжнароднага гандлёвага абмену. Трэба думаць, што па вызваленьні з путаў расейскага панаваньня Дагестан мог бы зноў заняць сваё месца ў рэгіёне, да якога ён належыць геаграфічна, на Вялікім Шаўковым шляху.

**ГАДАБЭРЫНЦАЎ**, яшчэ аднаго андыйскага народу, каля 3 тыс. У лютым 1944 году іх перасялілі ў Чачэнію на месца дэпартаваных, а ў 1957 годзе — у Дагестан назад, але ўжо на раўніну, у Хасаўюртаўскі раён. Цэнтрам гадабэрынскіх аулаў зьяўляюцца мячэт і так званы гадэкан, месца, дзе мужчыны бавяць свой вольны час, вечары.

**ГОРСКІЯ ЖЫДЫ**. Пра тое, што Дагестан уяўляе сабой тэрыторыю культурна досыць гамагенную, а народы маюць супольную мінуўшчыну і, спадзяемся, супольную будучыню, гаворыць прыклад горскіх жыдоў (саманазва — джухуры). Іх 3600 чалавек, і гавораць яны на тацкай мове іранскай групы, а па веры — юдэі. Мяркуюць, што гэтая жыдоўская грамада сфармавалася ў VII—XIII ст. пад час іміграцыі жыдоў з Ірану ды Бізантыі. У Дагестане яны, мяркуецца, асымілявалі частку мясцовых хазараў. У Сярэднія вякі існавала цэлая смуга жыдоўскіх аулаў на поўдні Дагестану ля Дарбенту, але пад час вызвольнай вайны Шаміля жыхароў шэрагу аулаў навярнулі ў іслам гвалтам. Гэтыя навянаверненыя неўзабаве зьліліся з мясцовым насельніцтвам. У фальклёры горскіх жыдоў вылучаюцца казкі (авасуна), якія выконвалі прафэсійныя казачнікі (авасуначы), і вершы-песьні (мані), сьпяваныя рапсодамі (маніху) і перадаваныя з указаньнем імені аўтара, так што цяпер мы ведаем імёны найдаўнейшых паэтаў гэтага народу, чаго ня ведаем у нас. І хаця частка горскіх жыдоў перабралася ў горад Дарбент — гэткую прыкаспійскую многакультурную Вільню, або Львоў, або Сараева, а частка — у Палестыну, асноўным заняткам джухураў заставалася земляробства, галоўнай сацыяльнай ячэйкай да 30-х гадоў нашага стагодзьдзя — вялікая трох-, чатырохпакаленная сям'я (да 70 чалавек). Як у іншых тутэйшых народаў, такая сям'я займала адзін двор, дзе ўжо былі асобныя дамы для кожнай, як кажуць этнолягі, нуклеарнай сям'і. На чале такой сям'і стаяў бацька, а пасьля ягонай сьмерці старшынства пераходзіла да старэйшага сына. Некалькі вялікіх сем'яў, што паходзілі ад аднаго продка, утваралі тухум. Сярод жыдоў таксама бытавалі звычаі кроўнай помсты, гасьцінасьці, талакі разам зь юдаістычнымі звычаямі кашэрнай ежы, мацы, абразаньня, жыдоўскага вясельнага й пахавальнага абрадаў. Значыць, лучнасьць дагестанскіх народаў грунтуецца на нейкім даісламскім, вельмі старадаўнім адзінстве, зь якога выбіваюцца хіба што толькі цюркскія народы поўначы прыкаспійскай краіны.

**ГУНЗІБЦАЎ** (цэскі народ на захадзе краю, 1400 чал.) таксама ў 1944 годзе перасялілі ў Наваўлакскі раён на месца выселеных чачэнцаў, але ў 1957 годзе яны вярнуліся назад. Мужчыны гэтага племені традыцыйна працуюць у адходніках — звычай, што цяпер распаўсюдзіўся і на іншыя народы Дагестану.

**ДЫДОЙЦАЎ**, або цэзаў (саманазва — арлы) каля 8 тыс. чалавек. Племя дыдуры згадваюць у сваіх сачыненьнях Клаўдзій Пталемей і Пліній Старэйшы. Дыдойцы моцна пацярпелі ня толькі пры змаганьні поплеч з Шамілём, але й у антыкаланіяльным паўстаньні 1877 году.

**РУТУЛЬЦЫ** — народ лезгінскай групы (15 тыс. чалавек). Рутульскі магал далучаны да Расеі ў 1812 годзе. У паўстаньні Шаміля ня ўдзельнічалі. У гэтага этнасу дагэтуль найбольшае сьвята ў годзе — «эр», дзень пачатку вясны. Пісьмовасьць толькі цяпер распрацоўваецца. Жывуць яны на поўдні краіны.

**ТАТЫ** (13 тыс.) гавораць патацку. Паўночны дыялект гэтай мовы — адна зь літаратурных моваў Дагестану. Сярод татаў ёсьць хрысьціяне-манафізыты, юдэі, мусульмане.

**ХВАРШЫНАЎ** (2 тыс.) у 1944 годзе прымусова запёрлі ў Чачэнію, у Ведзяно, скуль яны вярнуліся ў 1957 годзе. Усе хваршыны дагэтуль маюць адметны знак — бранзалет з чорнага войлаку на правай руцэ, а з сабою заўсёды носяць кінжал, пісталет і срэбную скрыначку з тукам (г'утуг) для шмараваньня рук. Апроч мусульманскіх сьвятаў, адзначалі таксама самы кароткі дзень году (Дзень нічоганерабленьня).

**ЦАХУРЫ** (5 тыс. чалавек, саманазва — іхбы) прынялі іслам яшчэ ў X ст. і ў XI—XIII ст. мелі мэдрэсэ, дзе арабскія тэксты перакладаліся на цахурскую мову. Мелі таксама свой султанат. У 30-х гадах стварылі сваю пісьмовасьць на аснове лацінкі, але пасьля яна была «за непатрэбнасьцю» забароненая. Цяпер цахуры вяртаюцца да пісьмовасьці на роднай мове. Падобна, так, як цахуры, прачынаецца ўвесь дзіўны сваім культурным багацьцем Дагестан.

**Барыс Тумар, Сяргей Богдан**

# СУРЛЯНСКІ КЛЯШТАР

*Карціны старой Беларусі*

Генрык ЖАВУСКІ

Мудрацы можа мне й запярэчаць, але вера, у чым я перакананы, з усіх пачуцьцяў — наймацнейшае й найбольш творчае пачуцьцё. Гонар, розум, магутнасьць і мужнасьць вялікімі справамі ў сьвеце рухалі, але найвялікшым, што перажыло вякі, была справа веры. Пазьнікала шмат старажытных народаў, ды так, што толькі памяць пра іх між людзей засталася, а калі чаго й засталося найбольш, што б выразна сьведчыла пра іхнае колішняе існаваньне, дык гэта былі помнікі іхнае веры — яны дажылі й да сяньня. Помнікі іхнай магутнасьці, у далёкай старажытнасьці збудаваныя, ужо ператварыліся ў пыл, як і парэшткі тых, хто стаўляў іх. Але калі тыя веры, хоць і памылковыя, нагэтулькі моцныя былі, дык чаго ж занепадае нашая, адзіна праўдзівая, якой сам ачалавечаны Бог навучаў? На ўсё тое трывалае, шляхетнае, высакароднае й дзяржаўнае, што цяпер ёсьць на сьвеце, натхняла вера бацькоў нашых. Не магу зразумець, як можа просты чалавек узвысіцца бязь веры, калі нават вялікія сьвету гэтага дайшлі да злачынства, хоць і не зусім страцілі рэшткі шляхетнасьці душы, але чалавек ня мае ачышчальнай сілы і мусіць яе атрымоўваць ад больш моцнай істоты. То ж і ў паганцаў былі нават нейкія абрады, што лекавалі сумленьне. Можа быць, што Пан Бог і там, глядзячы на злачынцу ў яго шчырай пакоры, выдзяліў яму які сродак вяртаньня да цноты і паблаславіў ягоныя пакуты за здольнасьць да ахвяры, і ўсё, што толькі ня робіцца, ці то ўчынак, ці то думка, бяз Божага натхненьня не бывае. Але гэта рэч настолькі глыбокая, што яе ня тое што сьвецкі чалавек, а нават і каплан ня вырашыць. Што да нас, дык мы ўсяго надзейнага зразумела і абавязкова пільнавацца мусім, а што будзе зь іншымі, таго ніколі не даведаесься... Гэтай загадкі і Бог нам не раскрыў. Я толькі ведаю, што колькі самаўпэўненых яму будзе надакучаць, стольких ён жорстка і асудзіць. Вось мы і дзякуем нашаму Збаўцу, што нас асьвяціў і даў нам сродкі, з дапамогай якіх мы можам заслужыць ягоную ласку. Заканадаўства нашага хрысьціянскага пакаяньня такое зразумелае, такое грунтоўнае, такое ў выніку апраўданае, што аніяк не адгаворымся, калі ня будзем ім карыстацца. У тым і заключаецца галоўная перавага даўнейшых часоў над цяперашнімі, што, хоць з аднаго боку бывалі злачынствы, большыя за тыя, што мы бачым цяпер (бо жывучасьць нашых продкаў была мацнейшая, чымся расьпешчаных нашчадкаў, што нават ня здольныя ўзьняцца да імгненных высакародных жарсьцяў, а адно гібеюць у подлых і нікчэмных), а з другога боку было ўсьвядомленае ўяўленьне пра цноты і пакаяньне, якімі адкупляесься ад грахоў. Быў гвалт, была і подласьць. Часам яны спалучаліся, каб, асьляпіўшы чалавека, пераправіць яго ў пачвару. У гэта, ня хочучы прыглядзецца да таго, што робіцца пад бокам, залішне прыглядаюцца абаронцы цяперашчыны. А як у наш час будаваліся прытулкі для нэндзных і бяздомных, як па гасьпіцах несканчона ішлі пілігрымы, як драпежныя зьвяры ўступалі сваё пячоры шматлікім пустэльнікам, якія засялялі пушчы! Такім чынам, глыбока ў сэрцах былі закладзеныя паняцьці пра абавязкі, і пакуль яны ня страцяць сваё пасполіцтва, няма чаго адчайвацца. Бо толькі той у нявінасьці можа чыніць вялікае, хто ў загане ўмее зносіць цяжкія пакуты. У гэтым агульным для часу духу не апошняе месца належала й нашай Айчыне. Спаміж розных сьведчаньняў таго адно асабліва засталося ў маёй памяці, хоць і выпадкова я даведаўся пра яго гадоў пяцьдзясят таму.

Едучы са Смаленшчыны, у Сурлах, што ў Аршанскім павеце, я цяжка занядужаў. І без сумневу памёр бы ў жыдоўскай гасподзе, калі б не прывяло туды зьвяджаваньне Божае двох босых айцоў кармэлітаў, якія вярталіся з капітулы ў свой кляштар, што пад апекай сьв. Эразма ўзвышаўся над Сурлянскай пушчай. Мяне, ледзь прытомнага, міласэрныя законьнікі забралі з сабой у кляштар, дзе пасьля колькітыднёвай немачы я ачуняў. Калі, вылечыўшыся, ад'яжджаў, дык на разьвітаньне яны забясьпечылі мяне грашыма, дзякуючы чаму дабраўся я ажно да Кракава, дзе зноў далучыўся да канфэдэратаў, у шэрагах якіх, як толькі ступіў пад іхныя сьцягі, прысягнуў змагацца да канца. Гэта і было прычынаю таго, што я ня стаў законьнікам, хоць і падабалася мне тое дзіўнае скапленьне багабойных, працавітых і вучоных людзей. Падчас майго побыту ў іх я даведаўся шмат падрабязнасьцяў пра іхную фундацыю.

У Віцебскім ваяводзтве пад час караляваньня Яна Казімера жыў высакародны грамадзянін, які меў адзінага сына. Клікалі яго Цеханавецкі, балазе, прозьвішча вядомае на Літве. Хоць ён і меў значныя ўладаньні, але выконваў немалыя абавязкі ў князя Ярэмы Вішнявецкага, якому ў падупалы маёнтак ягонага сына Міхала аддаў на паслугі свайго сына, і той жыў там на сваім утрыманьні і быў, бадай што, ці ня ўсім дваром князя. Але як толькі ўдзячны народ і памяць пра бацькоўскія заслугі ўзьнесла на польскі трон князя Міхала Вішнявецкага, адным зь першых чынаў новага караля было аддзячыць пану Цеханавецкаму за добраахвотнае разьдзяленьне непрыязнага колісь лёсу. Ён зрабіў яго крайчым літоўскім і даў яму колькі каралеўшчын, а між усяго і судовае староства аршанскае. Такім чынам, з маладога веку ён і займаў першыя пасады. Неўзабаве памёр ягоны бацька, і ён вымушаны быў пакінуць сталіцу, каб пакланіцца апошні раз бацькоўскім парэшткам і ўспадчыніць вялікае дзедзіцтва. Пасяліўшыся ў ваяводзтве, ён пасябраваў зь вяльможным Лапаціцкім, стольнікам віцебскім, і папрасіў у яго рукі ягонай дачкі. Папярэдне міжсобку яны дамовіліся, што крайчы з кансэнсу* караля ўступіць стольніку староства аршанскае, і ўрэшце, будучы роўным з абранай у высакародзтве і да высокай пасады дадаючы адзін з найлепшых ува ўсім павеце маёнткаў, ён атрымаў дэклярацыю і ў прысутнасьці ледзь не ўсяго ваяводзтва адбыліся пышныя заручыны. Але ж які нетрывалы дабрабыт чалавечы! Здавалася, што ты меў усе гаранты будучага шчасьця, а найвялікшае ліха ўжо над ім вісела. Ягоная маці, у асыстэнцыі, ужо й ня памятаю таго абывацеля, што яшчэ ў нябожчыка бацькі набыў тую вёску, дзе яна жыла, паўстае перад упраўай і прызнаецца, што пан крайчы ня ейны сын: сапраўдны сын памёр у немаўленстве, і яна замяніла яго на іншае дзіцё, за што сумленьне ёй пастаянна не дае спакою. Нарэшце, каплан, якому яна спавядалася, параіў зрабіць гэтае прызнаньне, каб пазбавіцца ад цяжкога граху. Будучы ў жаху ад гэткага сораму (іншыя Цеханавецкія, зацікаўленыя ў маёнтку, старанна ўзяліся за справу), пан крайчы бараніўся як мог, усялякімі спосабамі ратуючы матку, бо, паводле закону, ёй як паклёпніцы на яго, пагражала сьмяротная кара. Пан Лапаціцкі, у юрысдыкцыі якога вялася гэтая справа, сам за жывое крануты, чым мог таксама яму дапамагаў. Нарэшце няшчасны сын зганьбаванай маткі, а гэта насамрэч была ягоная маці, якую духоўнікі намовілі на нядобрае, а іх на гэта сам нячысьцік, бо гэткае прызнаньне, якое ўзрушае грамадзкі спакой, ня можа сыходзіць ад добрага духа, хочучы абудзіць у ейным сэрцы мацярынскае пачуцьцё, упрошваў яе, што ён не пераажыве гэткага няшчасьця, калі яна яго пазбавіць маёнтку, гонару, а гэта значыць, жыцьця, і схіляў яе, каб яна засьведчыла перад местам, што першае прызнаньне зрабіла адзіна са злосьці дзеля таго, каб дамагчыся значнай узнагароды за клопаты ў час сыновага немаўленства, бо быў ён празь меру крыклівы і дакучлівы, ад чаго ейнае сэрца напоўнілася горычу і помстай... З панам жа старостам аршанскім ён дамовіўся, што ў парадку разгляду справы аб паклёпе будзе дамагацца ў ягоным судзе сьмяротнага пакараньня, а той у ім не адмовіць, спасылаючыся на ўласнае прызнаньне падсуднай. Але што неадкладна выяжджае ў Варшаву, каб атрымаць у караля ахоўную грамату, пры дапамозе якой у час экзэкуцыі вызваліць яе, а потым, забясьпечыўшы ёй прыстойны побыт, перавязе ў аддаленае ваяводзтва.

Пасьля гэткай дамовы з старостам і будучым сваім цясьцём, а таксама з маці, якой ён усю сутнасьць справы растлумачыў, а яна на ўсё згадзілася і паабяцала да канца вытрываць паўторнае прызнаньне, ён сьпешна едзе ў Варшаву і вяртаецца з ахоўнай граматай. Тым часам справа вядзецца ў звычайным парадку, ва ўправе выносіцца сьмяротны вырок, а пан староста, якому ўжо зяць паказаў ахоўную грамату, зацьвярджае дэкрэт з упэўненасьцю, што сын пакараньня маці не дапусьціць. Але пан крайчы, хочучы засьцерагчыся ад ворагаў, каб яны ізноў не пачалі перашкаджаць, своечасова не прад'явіў граматы, і ягоная родная матка была пакараная сьмерцю. Пан староста, які адзін пра ўсё гэта ведаў (бо іншыя судзьдзі па ўсёй справядлівасьці судзілі), калі яму намесьнік данёс аб выкананьні выроку, зваліўся нежывы, як перуном прыбіты. Пан крайчы праз год пабраўся з старасьцянкай, зь якой нажыў шчасьлівае жыцьцё, нарадзілі шасьцёх сыноў і ў вялікай набожнасьці выхавалі. Ува ўсім яму шанцавала, усё ён меў: і немалое багацьце, і высокія пасады, і пашану ў грамадзтве. Кожны мог зайздросьціць ягонаму шчасьцю, ды ніхто ня ведаў, што ў яго на душы робіцца. Жонка ягоная памерла, калі меншы з сыноў быў ужо дарослы. У барацьбе з самім сабою ён правёў жалобны год, паклікаў усіх шасьцёх сыноў, раскрыў перад імі пакутлівую таямніцу і паведаміў, што хоча паставіць у Сурлянскай пушчы кляштар, дзе ў пакаяньні і скончыць жыцьцё. Сыны ж, перагаварыўшы міжсобку, адпавялі яму на тое:

— Бацька, калі гэта так, дык ніводны з нас ня мае права валодаць тым маёнткам. Будуй кляштар, а законным уладальнікам аддай свой набытак, які ты значна павялічыў. Мы ж усе пакінем сьвет і з табой разам будзем каяцца і служыць Пану Богу!

І так пан крайчы паставіў прыгожы пустэльніцкі кляштар у імя свайго патрона сьв. Эразма і пасадзіў у ім кармэлітаў. Ён склікаў Цеханавецкіх, ужо зьбяднелых, з волі Божай дзедзічаў ягоных сялянаў, выспавядаўся ў сваім злачынстве, перапрасіў за ўчыненыя ім крыўды і аддаў ім увесь маёнтак, пераканаўшы іх, што фундуш, які ахвяраваў на хвалу Богу, сабраны ня зь іхнага маёнтку, а з каралеўскіх дароў. Потым з усімі шасьцю сынамі прыняў навіцыят**, у два леты разам зь імі урачыста даў зарок і памёр брацішкам у вельмі пажылым веку і ў такой пабожнасьці, што ягоныя парэшткі дасюль цудамі славяцца. Усе сыны ягоныя былі асьвечаныя на капланаў, і закон меў вялікую ўцеху ад іхнае набожнасьці і чысьціні.

**кансэнс — дазвол, згода*
***навіцыят — послух*

**Пераклаў з польскай Алег Дышлевіч**

**Генрык Жавускі (1791-1866)** — буйны пісьменьнік XIX ст. Адама Міцкевіча, зь якім Жавускі спаткаўся ў Рыме, захапілі ягоныя аповеды пра часы Станіслава-Аўгуста. Ён і пераканаў свайго земляка ўзяцца за пяро, прадказваючы велізарны посьпех. Дзякуючы гэтаму і зьявіліся знакамітыя «Паментнікі Пана Сэвэрына Сапліцы, чэсьніка парнавскага» (Рым, 1832; СПб, 1839) — шэраг выдатных паводле маляўнічасьці і задушэўнасьці тону карцін старашляхецкага побыту. У нумарах 8 і 12 за гэты год мы друкавалі апавяданьні Г.Жавускага «Рэйтан» і «Пан Агінскі».



Малюнак Сяргея Харэўскага

рэцэнзіі

# Пабужжа наша і ня наша




Каробушкіна Т. **Насельніцтва Беларускага Пабужжа X—XIII ст.** — Менск: Беларуская навука, 1999. — 128 с.: іл. — Наклад 450 ас. ISBN 985-08-0095-X

Пабужжа — рэгіён асаблівы ў Беларусі, бо здаўна шмат хто з дасьледнікаў сумняваўся, а ці Беларусь гэта ўвогуле. Заходняе Палесьсе не ўключаў у межы «беларускай вобласьці» акадэмік Я.Карскі, за ім так рабілі іншыя, а вось М.Даўнар-Запольскі цьвёрда трымаўся таго, што гэты рэгіён — беларуская этнаграфічная тэрыторыя. Каб крыху разабрацца ў гэтай праблеме, паспрабуем зазірнуць у мінулае рэгіёну. Балазе выйшла кніга Тацяны Каробушкінай пра археалёгію Беларускага Пабужжа (а яго лічаць часткай Заходняга Палесься).

Аказваецца, тут нам археалёгія не дарадчык, і прычынай таму пазыцыя, занятая аўтарам. Бо Т.Каробушкіна адмовілася разглядаць у кнізе «беларускае пытаньне» што да рэгіёну. І ня толькі яго.

Што такое Беларускае Пабужжа? Басэйн Буга на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, — адкажа кожны. А як гістарычны рэгіён? На жаль, аўтар не дала адказу на другое пытаньне, ды й папярэдняе вызначэньне адсутнічае. Скрозь у кнізе тэрмін «Беларускае Пабужжа» замяняецца на «Сярэдняе Пабужжа», што некалькі іншае. Сярэдняе Пабужжа, можа, і ў Польшчы ёсьць. Але зьвернемся да гісторыі рэгіёну, якая ў манаграфіі адсутнічае. Пабужжа ў XII—XIII ст. уваходзіла ў Валынскае княства, і для некаторых гісторыкаў гэта было доказам таго, што жылі ў Заходнім Палесьсі валыняне (чытай: украінцы). Гэты аргумэнт у кнізе Т.Каробушкінай застаўся неразгледжаны, а значыць, і неабвергнуты. Археалягічныя доказы таго, што ў Пабужжы жылі валыняне, таксама ў манаграфіі ня выкладзеныя. Для іншых славянскіх груповак месца ў Беларускім Пабужжы аўтар таксама не знаходзіць. Прасочваюцца нейкія сьляды мазаўшанаў, але, маўляў, ня годныя веры.

Абвяргаючыя правы на рэгіён і неславянскіх плямёнаў. Працяглы час Пабужжа лічылася апірышчам таямнічых яцьвягаў, ваяўнічага балцкага племя. За апошнія паўстагодзьдзя на карысьць гэтага погляду назьбіралі доказаў і археолягі. І значнае месца ў кнізе адведзена барацьбе з гэтымі аргумэнтамі. Згодна з тэорыяй аўтара, наша Пабужжа — край спакон (прынамсі з X ст.) дрыгавіцкі, а значыць — «беларускі». Сучасны «украінскі» каларыт Пабужжа застаўся нерастлумачаным.

Недзе ў сярэдзіны кнігі ўзьнікае новая тэндэнцыя. Калі справа дайшла да разгляду гарадоў, то аказалася, што ў Беларускім Пабужжы ў X—XIII ст. іх мелася зусім мала: Берасьце і... больш нічога (бо Кобрынь і Камянец яшчэ не кранала рыдлёўка археолага). Мусіць, таму, каб разьдзел пра гарады выглядаў больш годна, аўтар зьвярнулася да Польскага Пабужжа (сучаснага), падараваўшы беларусам Драгічын-над-Бугам (у кнізе скрозь Драгічын Надбужны) і Мельнік, якія ў свой час належалі валынскім князям. На жаль, аўтар не пайшла яшчэ далей па цячэньні Буга і не дасягнула разглядам гораду Нура, якім у XII ст. кароткі час валодаў менскі князь Уладзімер Валадаравіч (няпэўная зьвестка гісторыка XVIII ст. Васіля Тацішчава, якая чакае падрабязнага разгляду сучасных дасьледнікаў). Такім чынам, Беларускае Пабужжа прасунулася ў межы сучаснай Польшчы, але чамусьці не ва Ўкраіну. Украіне ўвогуле ў кнізе не пашчасьціла, не зважай на тое, што там ляжыць Верхняе Пабужжа. Па старой археалягічнай завядзёнцы археолягі шукаюць аналягі знойдзеным у час раскопак рэчам. Рэчы, аналягічныя берасьцейскім, трапіліся пры раскопках іншых беларускіх гарадоў, аналягі адшуканыя аўтарам сярод археалягічнага матэрыялу Вялікага Ноўгараду, але знаходкі зь Беларускага Пабужжа ні разу не параўноўваліся з украінскімі матэрыяламі. Ёсьць падазрэньне, што яны вельмі блізкія. Ну, украінцам аўтар не дае веры, гэта было зразумела і раней.

А ўвогуле кніга досыць традыцыйная для савецкіх археалягічных манаграфіяў. Так яны пісаліся і 50 гадоў таму. Пры раскопках знойдзеныя абрэзкі скуры — значыць, было ў гарадах шавецкае рамяство, знойдзеныя нажы — значыць, разьвівалася кавальства, знойдзены надпіс на касьцяной тронцы нажа — значыць, вельмі высокай была пісьменнасьць. Зьдзіўляе арыфмэтычная задачка: Камянецкую вежу пачалі будаваць у 1276 годзе, муравалі 12 гадоў, і вось «ужо 606 гадоў на пясчаным узвышэньні левага берага Лясной стаіць гэты фарпост...» Ад чытача, пэўна, патрабуецца знайсьці, дзе тут памылка. А Бог яе ведае. Чытаньне кнігі абцяжарана адметнай рысай — частым пропускам слоў і лягічных кавалкаў, таму маем фразы тыпу: «археалягічныя матэрыялы канца 80-х — пачатку 90-х гадоў нашага стагодзьдзя сьведчаць...» Каму цяжка прабірацца скрозь такія нетры, можа зьвярнуцца проста да папярэдніх манаграфіяў на тэму рэгіёну: «Курганы Беларускага Пабужжа ў X—XIII ст.» (1983) і «Бярэсьце» (1985). Новага ў кнізе няшмат.

**Валеры Пазьнякоў**

# ДЫСКАГРАФІЯ

## РЭДКІ ГОСЬЦЬ

**Ірына Дарафеева**
**1999. «Ковчег».**




Прыгожая дзяўчына, прафэсійная сьпявачка. Аж цяжка паверыць, што гэта — дэбютны альбом Ірыны Дарафеевай, якую можна было б сьмела заносіць у айчынную Кнігу рэкордаў Гінэса. Мяркуйце самі: за нейкія дзевяць месяцаў яна «нарадзіла» чатыры ляўрэацкія званні на міжнародных конкурсах. А цяпер — яшчэ і першы сольны альбом.

Магчыма, для прыхільнікаў жорсткага гучаньня і рокавых рытмаў ён падасца залішне «папсовым», а для аматараў клясычнае эстрады — празьмерна (месцамі) рокавым. У гэтым сапраўды ёсьць доля праўды: Ірына Дарафеева ў сёньняшняй эстрадзе займае сваё месца, арыентуючыся перш за ўсё на вартасны і часам — баюся нават прамовіць! — высокамастацкі рэпэртуар.

Не-не, ня буду сьцьвярджаць, што ўсе песьні на гэтым альбоме — скрозь шэдэўры! Такое ў беларускай (і ня толькі ў ёй) папулярнай музыцы здараецца гады ў рады. Наколькі можна здагадацца, мэтай мэнэджэра Юрыя Савашa было выдаць касэту, якая б паказала Ірыну Дарафееву найперш як нацыянальную сьпявачку, бо яна выконвае шмат песень і парасейску, і нават па-ангельску, калі зрэдку бярэцца за джазавыя мэлёдыі. Адзіны вынятак на гэтым альбоме зроблены для песьні «Рэмэдыюм» Краеўскага—Чапінскай, якая гучыць па-польску. Дарэчы, песьня тая неаднойчы спрыяла перамогам Дарафеевай на міжнародных конкурсах.

Аранжаваньні твораў рабілі лепшыя музыканты краіны — нябожчык Ігар Палівода, Уладзімер Ткачэнка, Сяргей Анцішын, а запісваліся песьні з дапамогай гітарыстаў С.Вядзьмедзя, тых жа У.Ткачэнкі ды С.Анцішына, піяністаў А.Эскіна, А.Моўчана, Ю.Багаткевіча, С.Аляксандрава, басіста В.Башкова, барабаншчыка А.Старажука. У запісе ўдзельнічалі таксама сымфанічны аркестар тэлерадыёкампаніі (дырыжор А.Лапуноў), ансамбаль старадаўняй музыкі «Контраданс» ды вакальная група «Камэрата». Карацей, эстрадны «дрым цім», сапраўдны зорны склад, пра які можа марыць ці ня кожны выканаўца.

На альбоме ёсьць шмат пасапраўднаму ўдалых песень. Найперш гэта загалоўная «Рэдкі госьць» Ігара Паліводы з супэрскладанай музыкай, запісаная ў выдатным аранжаваньні з удзелам сымфанічнага аркестру ды ансамблю «Контраданс». Пасьля першай лірычнай часткі, якая вытрымана ці не ў барочнай манеры, Дарафеева раптам кідаецца ў рокавую стылістыку і — во дзіва! — годна выходзіць з гэтай рызыкоўнай сытуацыі.

Ёсьць эпізодзікі, калі яе голас часам гучыць ня надта ўпэўнена ці проста на мяжы магчымасьцяў («Веру і малюся» ў нізах, сям-там верхнія ноты ў некаторых іншых песьнях), ёсьць і песьні прахадныя, якія напэўна не застануцца ў памяці («Рабінзон», «Парасоны»). Але найбольш годна паказвае сьпявачка ўласны голас у песьнях «Нечакана» І.Паліводы—Л.Пранчака, «Ноч безь цябе» Л.Захлеўнага—Л.Пранчака. Песьня «Гора не бяда» Л.Шырына—А.Лягчылава — проста ўдалы і разам з тым ня танны шлягер, выдатна слухаецца лірычная «Рэчанька» П.Яроменкі—У.Пецюкевіча, цікавая па музыцы «Тайна грэшнага спатканьня» Ю.Савашa—А.Лягчылава.

І калі нехта сумняваецца, што часам словы «беларуская эстрада» і «мастацкасьць» могуць ня толькі ўжывацца побач, але й даваць падставу ўзьняць за агульны посьпех келіх-другі шампанаў — калі ласка: альбом Ірыны Дарафеевай.

Дзьве прыкрыя рэчы: «Рэмэдыюм» гучыць ня цалкам, ці не абрываючыся, калі да коды яшчэ даволі далёка; тэксты на ўкладцы сьтракацяць граматычнымі памылкамі.

Сярод тых асобаў, каму Ірына Дарафеева выказвае падзяку за дапамогу ў выданьні альбому, значыцца нейкі Ў.Канаплёў. Няўжо той самы — зацяты фанат «Beatles», «Led Zeppelin» ды былога прэзыдэнта краіны? Калі гэта сапраўды ён, дык можна лічыць, што сваю ролю ў падтрымцы нацыянальнай культуры ён выканаў і цяпер можа сьмела вяртацца ў родны Шклоў на пасаду інспэктара па справах непаўналетніх.

## ШАХМАТЫ

**Вольга Залеская**
**1999.**




Не, ну я проста млею, слухаючы некаторых беларускіх бардэс! Прабачце за гэтае слова, але мае пачуцьці ад песень Алены Казанцавай, Вольгі Залескай можна акрэсьліць словамі «добрая зайздрасьць», «хваляваньне» і нават «любоў». Ну, умеюць яны выказаць гэтак па-жаночаму, настолькі шчыра, адкрыта, што разпораз губляецца адчуваньне часу, прасторы ды палавой прыналежнасьці, бо іншым разам узьнікае адчуваньне, быццам гэта не яны сьпяваюць, а ўласная душа.

Гэта другая ўжо (прынамсі) касэта зь песьнямі Вольгі Залескай. Набыў вось яе і зноў не расчараваўся, адно пераканаўся ў тым, што аўтарка цалкам заслужана зьбірае поўныя залі ў Расеі, дзе, здаецца, выступае куды часьцей, чым на радзіме. Ну і слушна! Нехай грошы расейскіх падаткаплацельшчыкаў служаць на карысьць Айчыны блакітнавокай! Хоць матэрыял альбому вытрыманы ў амаль клясычнай для бардаўскай стылістыкі манеры, многія песьні лёгка, ашчадна, але надзвычай дакладна, з густам аранжаваныя з дапамогай ці то другой гітары, ці то фартэпіяна, ці то нейкіх дудачак (клявішных?), ці то нават праз накладаньне другога голасу (аранжаваньне масквічкі Людмілы Кілiўнік).

Няма сэнсу разьбіраць асобна песьні з гэтага альбому, як няма сэнсу спрабаваць нешта зразумець у патаемных сьпевах жаночае душы. Магу толькі сказаць, што кожная з запісаных на «Шахматах» песень, як смачная цукерка. Пры гэтым цешыць тое, што ўсе яны — не якія імпартныя «Чупачупсы», а дакладна айчынныя «Ўзьлётныя». Для душы.

*Слухач*

### Гіт-парад (чэрвень/ліпень)

Гіт-парад складзены паводле продажу MC і CD.

| | |
|---|---|
| 1.NRM | Пашпарт грамадзяніна НРМ/*Ковчег* |
| 2.Нейро Дюбель | Охотники сайгак/*Пан-рэкардз* |
| 3.Народны альбом (супольны музычны праект) | /*Ковчег* |
| 4.Мясцовы Час | Халі—Галі/*БМА* |
| 5.Новае Неба | Мая краіна/*Ковчег* |
| 6.Уліс | Чужаніца/*Ковчег* |
| 7.Крама | Што дапаможа нам?/*Ковчег* |
| 8.Троіца | Troitsa |
| 9.«Вольныя танцы: слухай сваё» | (зборнік)/*БМА* |
| 10.Зьніч | Язычнік—Я!/*Зьніч* |

*Радыёварыянт беларускага гіт-параду можна пачуць кожны апошні чацьвер месяца з 10.00 і кожную нядзелю з 13.00 на хвалях «РАДЫЁ-2» (Fm 70.4 Am 1197 kHz).*

**Набыць беларускую аўдыё-, відэа- і кніжную прадукцыю можна ў наступных гарадах:**

**Менск** — кіёск «Карона» (каля крамы «Музыка»), Варвашэні 8 (сядзіба БНФ); **Маладэчна** — кіёск ТБМ (чыгуначны вакзал), тэл.53 769 Алесь; **Гомель** — крама Audio-box (Першамайская 23), унівэрмаг «Гомель»; **Віцебск** — кіёскі фірмы «Саюз»; **Сьветлагорск** — кіёск 93 (р-н рэстарану «Пралеска»), тэл. (02342) 27 815 Сяржук, **Ворша** — крама «Пілёт» (Леніна 16, тэл. 44 893); **Магілёў** — тэл. (0222) 25 5785, **Горадня** — штопанядзелак і сераду па адрасе: К.Маркса 11, тэл.(0152) 72 1183; **Баранавічы** — тэл. (0163) 41 2430, 41 1046 (Алесь, Валадзей); **Мар'іна Горка** — тэл. (213) 45 962; **Берасьце** — тэл. (0162) 20 2087, 26 4831, 22 7811; **Беласток** — (85) 661 6400 Вячаслаў; **Сыстэма «Касэты-поштай»** — а/с 5, Менск, 220085, тэл. (017) 249 0888 Віталь. E-mail: aja@cscsc.lingvo.minsk.by.

## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Асновы аграноміі:** Падручнік / Л.Верамейчык, І.Багдзевіч, А.Гуз ды іншыя. Пад рэд. Л.Верамейчык. — Менск: Ураджай, 1999. — 416 с.: іл. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-04-0122-2

*Падручнік напісаны да праграмы вывучэньня курсу «Асновы аграноміі» ў вышэйшых сельскагаспадарчых установах Беларусі. Наклад кнігі не дае пэўнасьці, што яна дойдзе да ўсіх студэнтаў і паспрыяе пераводу вышэйшае адукацыі на беларускую мову.*

Баранаў Л. **Майстру-наладчыку машынна-трактарнага парку.** — Менск: Ураджай, 1998. — 382 с.: іл. — (Навучальныя дапаможнікі для прафэсійна-тэхнічных вучэльняў) — Наклад 1000 ас. ISBN 985-04-0010-2

**Беларуская драматургія.** Вып. 5 / Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусі. Уклад. В.Валодзька. Рэпэртуарна-рэдакцыйная калегія: В.Валодзька (старшыня) ды іншыя. Прадмова В.Валодзькі. — Менск: Беларуская навука, 1998. — 190 с. — Наклад 800 ас. ISBN 985-08-0252-9

*У 5-м выпуску «Беларускае драматургіі» друкуюцца творы А.Паповай, А.Ждана, П.Васючэнкі, Г.Марчука, С.Кавалёва — пераможцаў рэспубліканскага конкурсу ў стварэньні п'есаў для тэатру.*

Грабчыкаў С. **Белорусско-русский словарь.** — Менск: Парадокс, 1999. — 349 с. — («Эрудит») — Наклад 11000 ас. ISBN 985-451-618-2

*«Парадокс» — менскае прыватнае выдавецтва, утворанае ў выніку расколу выдавецтва «Дайджэст», якое ў свой час спэцыялізавалася на эратычнай літаратуры.*

Ласкаўнёў А., Нямковіч Н., Валачко А. **Русско-белорусский терминологический словарь по металлургическому производству.** — Менск: Беларуская навука, 1998. — 431 с. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-08-0250-2

*Чарговы тэрміналягічны слоўнік кішэннага фармату налічвае 13000 адзінак з галіны мэталюргічнае вытворчасьці.*

**Трактары й аўтамабілі: навучальны дапаможнік** / У.Багук, І.Русецкі, Г.Якубенка ды іншыя. Пад рэд. І.Русецкага. — Менск: Ураджай, 1998. — 319 с.: іл. — (Навучальныя дапаможнікі для прафэсійна-тэхнічных вучэльняў) — Наклад 2000 ас. ISBN 985-04-0101-X

*У дапаможніку зьмешчаныя канструкцыі, тлумачыцца прызначэньне й прынцыпы працы мэханізмаў, агрэгатаў і сыстэм трактароў і аўтамабіляў. Прызначаецца для навучэнцаў прафэсійна-тэхнічных вучэльняў.*

**Гуманитарии и обществоведы Национальной академии наук Беларуси** / Склад. А.Бонька ды іншыя. — Менск: Беларускі кнігазбор, 1997. — 206 с. Наклад 500 ас. ISBN 985-6318-11-4

Зборнік дае падсумаваньне працы Беларускай Акадэміі Навук у названых галінах за ейную 70-гадовую гісторыю.

Залуский А. **Время и музыка Михала Клеофаса Огинского** / Пер. з ангельскае Ул.Плютова, Мастак Э.Жакевіч. Уступ. арт. Ул.Шчаснага, А.Мальдзіса. Пасьляслоўе Л.Анцух. — Менск: Чатыры чвэрці, 1999. — 191 с. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-6089-39-5

*Пра жыцьцё й творчасьць Міхала Клеафаса Агінскага, вядомага пераважнай большасьці людзей як аўтар паляпэзу «Разьвітаньне з Бацькаўшчынай», піша ў гэтай кнізе ягоны нашчадак Андрэй Залускі. Дасьледаваньне ўгрунтаванае на недаступных шырокаму колу чытачоў мэмуарах Агінскага, выдаваных у 19 ст., а гэтаксама на падставе ягоных ненадрукаваных дыярушаў. Аўтар добрага перакладу — загадчык аднаго з аддзелаў адміністрацыі прэзыдэнта, уступнага артыкулу — пасол Беларусі ў Англіі.*

Круталевич В. **История Беларуси: Становление национальной державности (1917-1922 г.).** — Менск: часапіс «Право и экономика», 1999. — 388 с. — Наклад 200 ас. ISBN 985-442-030-1

*Апалягет беларускае савецкае дзяржаўнасьці гісторык Вадзім Круталевіч у сваёй новай кнізе працягвае тэму, распачатую ў дасьледзінах «Народзіны Беларускае Савецкае Рэспублікі» (т. 1 — 1975 г.; т. 2 — 1979 г.): «Чаму ў барацьбе за ўладу пацярпеў паразу зарыентаваны да «заходніх вартасьцяў» беларускі нацыянальна-вызвольны рух». Кніга цікавая найперш шырокім выкарыстаньнем архіўных крыніцаў.*

Лиякумович Г. **Потомки А.Пушкина в Беларуси.** 2-е выд. — Менск: Унівэрсытэцкае, 1999. — 168 с. Наклад 4000 ас. ISBN 985-09-0221-3

*Кніга прысьвечаная Натальлі Варанцовай-Веляміновай, унучцы Аляксандра Пушкіна й чальцом ейнае сям'і, значная частка жыцьця якіх прайшла на Бабруйшчыне.*

**Новейший философский словарь** / Склад. А.Грыцанаў. — Менск: выдавец У.Скакун, 1998. — 896 с. — Наклад 10000 ас. ISBN 985-6235-17-0

*У слоўніку зьмешчана 1400 аналітычных артыкулаў, што ахапляюць як усю поўніцу клясычнага канону, гэтак і найноўшыя тэндэнцыі разьвіцьця філязофіі. Больш як 400 фэномэнаў і пэрсаналіяў уведзеныя ўпершыню, у тым ліку і некаторыя беларускія філёзафы.*

**Чытаў кнігі Віктар Мухін**



Фота Гжэгажа Дамброўскага

# ГНЯЗДО БЕЛАРУСКАСЬЦІ SOKRATES

*У Крынках (Беласточчына, Польшча) ствараецца своеасаблівы цэнтар беларускай культуры Villa Sokrates, які 14 жніўня ладзіць першае мерапрыемства: літаратурную сустрэчу «Трыялёг беларускі». Яе ініцыятар і гаспадар Сакрат ЯНОВІЧ адказаў на пытаньні беластоцкай «Нівы».*

**Чым мае быць Villa Sokrates?**

— Тут будзе канцэнтравацца дзеяньне, накіраванае на абарону беларускай культуры, асабліва літаратуры ад зьніштажэньня. Хочам дапамагаць беларускай літаратуры прыжыцца ў Эўропе, дзе пра яе мала ведаюць. Бо няма каму яе папулярызаваць. Узьнікненьне Villa Sokrates, гэта — гаворачы крыху пэрвэрсійна — заслуга не столькі мая, колькі прэзыдэнта Лукашэнкі. (sic!) Калі там усё беларускае пляжаць так, каб не засталося пасьля нас і мокрага сьледу, то я тут хоць колькі магу, наколькі маю сілы, кажу: не! Нябожчык Віктар Варашыльскі некалі сказаў мне знамянальныя словы: калі няма магчымасьці закрычаць, то трэба хоць запішчаць. Але, каб быў нейкі знак нязгоды, Villa Sokrates — гэта наш супраціў вынішчэньню беларускай літаратуры.

**— Як гэта будзе адбывацца на практыцы?**

— Мы, — бо я тут не адзін, але і Лёнік Тарасэвіч, і Юрка Хмялеўскі, і іншыя асобы, якія могуць у тым накірунку нешта арганізацыйна зрабіць, — маем намер выдаваць пэрыядычны часопіс, напачатак раз у год. У ім будуць публікаваныя тэксты пра беларускую літаратуру і, шырэй, культуру на мовах Эўропы. Для прыкладу, калі прафэсар Лёнданскага ўнівэрсытэту Арнольд Макмілін напісаў на ангельскай мове эсэ пра прозу Пташнікава, мы яго так і апублікуем, даючы абшырнае рэзюмэ па-беларуску. Або італьянская паэтка Крыстыяна Мольдзі Равэнна (перакладае аднаго з нашых аўтараў) напісала падобнае эсэ, то мы гэта апублікуем на італьянскай мове, а рэзюмэ на ангельскай і беларускай. Але Мольдзі Равэнна таксама паэтка, і мы будзем намагацца перакласьці нешта яе на беларускую мову. Гэта такі знак удзячнасьці, але ня толькі. Нашай стратэгіяй будзе стварэньне, так сказаць, гнёзду зацікаўленьня беларускасьцю ў Эўропе. Маем шанец стварыць такое гняздо ў Вэнэцыі, Лёндане ці Гановэры. Завязваем сувязі з брэтонскімі аўтарамі.

**— А беларускія аўтары? Ці будзе і для іх у часопісе месца?**

— Людміла Рублеўская напісала вельмі добрае эсэ пра актуальны стан беларускай літаратуры. Мы яго апублікуем не па-беларуску, але на адной з эўрапейскіх моваў, каб людзі ў Эўропе змаглі зь яго даведацца пра беларускую літаратуру. Нам разыходзіцца пра тое, каб інтэлектуальная Эўропа, якая ведае пра беларускую літаратуру з энцыкляпэдыі, памаленьку ёю зацікаўлялася, напачатак цераз пасрэдніцтва нешматлікіх аўтараў, якія ўжо ёю цікавяцца і пра яе пішуць. А пераклады на беларускую мову маюць падвойнае значэньне. Па-першае, любому аўтару заўсёды цікава пабачыць пераклад сваіх твораў і прыемна, калі яго перакладаюць. А па-другое, такія пераклады ўваходзяць у субстанцыю беларускай літаратуры, эўрапеізуюць яе. Справа ў тым, каб беларуская літаратура хутчэй набывала эўрапейскі кантэкст. Каб не была павернутая ў адзін, усходні бок. Бо культура ўсебаковая.

**— Villa Sokrates, значыць, мае быць нашай візытнай карткай у сьвеце. А якое месца зойме яна паміж ужо існуючымі і стваранымі беларускімі культурнымі цэнтрамі на Беласточчыне?**

— Мы ў ніякім разе нікому не канкурэнты. БГКТ, для прыкладу, гэта арганізацыя народная, БАС — студэнцкая. Кожная арганізацыя мае свой профіль, сваю мэту і кліентаў. Villa Sokrates — гэта структура абсалютна элітная, эксклюзыўная, арыентаваная выключна на літаратурнае і мастацкае асяродзьдзе. Яна будзе жыць у творчых асяродзьдзях паэтаў, пісьменьнікаў, перакладчыкаў. Напэўна Villa Sokrates будзе мець значэньне Літаратурнаму аб'яднаньню «Белавежа», хаця б таму, што мы тут на месцы і будзем яго часьцей экспанаваць. Зрэшты, ёсьць каго, маем добрых паэтаў, як хаця б Ян Чыквін. Несумненна, нейкі грамадзкі ўплыў Villa Sokrates мець будзе, але шырэйшага водгуку, можа па-за самымі Крынкамі, мы не спадзяемся.

**— Якія найбліжэйшыя пляны?**

— У палове жніўня ладзім тут сустрэчу з сымбалічнай назвай: трыялёг беларускі. Прымуць у ёй удзел нашы беластоцкія аўтары, пісьменьнікі зь Беларусі і аўтары з Заходняй Эўропы як трэці бок. Далей усё будзе залежаць ад фінансаў. Наша актыўнасьць задарма, бо ні я, ні хто колечы з маіх калег на гэтым не зарабляе. Грошы патрэбныя на часопіс і сустрэчы. Мы думаем, разам з выхадам свайго часопіса ладзіць некалькідзённую бяседу яго аўтараў з Англіі, Францыі, Італіі, Нямеччыны, так больш-менш дзесяць чалавек. Такія літаратурныя сустрэчы, свабодныя дыскусіі, сымпозіюмы будуць мець вельмі вялікае значэньне, бо такім чынам мы створым як быццам радзіну, гурт людзей знаёмых, дапамагаючых адзін аднаму і зацікаўленых пашырэньнем беларускай літаратуры ў Эўропе.

Успамаглі ўжо нас некаторыя бізнэсмэны, як Мірaслаў Целушэцкі ці Валянцін Сельвясюк, нашы добрыя знаёмыя. У апошні час атрымалі мы чатыры тысячы злотых ад Фонду Баторыя. Гэта сумы недастатковыя, але пачатак заўсёды цяжкі. Ня будзем пляніваць многа, пляны лёгка рабіць. Горш зь іх ажыцьцяўленьнем. Дай Бог, каб нам удалося выпускаць раз у год часопіс, якому мы надалі лацінскую назву «Anno Albarutheni», гэта значыць «Беларускі год». Лацінская назва не з фанабэрыі, а каб была чытэльная ў Эўропе, каб, калі хто яго возьме ў рукі, ведаў чаго спадзявацца.

**— Сорак гадоў Літаратурнае аб'яднаньне «Белавежа» чакала свайго часопіса. Першы нумар «Тэрмапілаў» зьявіўся толькі ў пачатку гэтага году. Ці «Anno Albarutheni» ня будзе яму канкурэнцыяй?**

— Што Вы? «Тэрмапілы» — гэта часопіс для беларускіх аўтараў, а наш — для аўтараў эўрапейскіх, якія цікавяцца беларускай літаратурай, культурай, для сяброў беларускай літаратуры ў Эўропе.

**Інтэрвію ўзяў Мікола Ваўранюк**

---

слоўнік паняцьцяў

Валерка БУЛГАКАЎ

# 11. ПРА ІМПЭРСКУЮ НАРМАЛІЗАЦЫЮ І НЕСЬВЯДОМЫХ БЕЛАРУСАЎ.



Што б там ні гаварылі, але за апошнія дзесяцігодзьдзе беларуская нацыяналістычная міталёгія папоўнілася цэлым шэрагам мітаў. Адныя зь іх былі зусім новымі, другія ж сур'ёзна падноўленымі (пераліч некаторыя зь іх: міт пра Беларусь як пра галоўную пераемніцу гістарычнай традыцыі Вялікага Княства Літоўскага; міт пра сур'ёзны навуковы патэнцыял, якім валодае Беларусь; міт пра Беларусь як цэнтар Эўропы; міт пра беларускую мову як самую чыстую са славянскіх моваў і г.д.). Не адчула на сабе, аднак, значных мадыфікацыяў крыптанацыяналістычная дактрына пра «сьвядомых» і «несьвядомых» беларусаў.

Згодна з гэтым уяўленьнем, якое практыкуецца часткай беларускай эліты, «несьвядомыя» беларусы — гэта поўнае адхіленьне ад нормы, вынятак з правіла, маргінальная кандыцыя, часовае недаразуменьне, постімпэрскі казус, саманедастатковы стан, зь якога, строга кажучы, можа быць толькі адно выйсьце, а менавіта іх непазьбежнае ператварэньне ў беларусаў «сьвядомых». Пры гэтым паняцьце «несьвядомыя беларусы» аўтаматычна пашыраецца на ўсю беларускую этнічную масу.

Падкрэсьлім, што гэтая дактрына мае істотную афэктыўную вартасьць для тых, хто называе сябе «сьвядомымі» беларусамі, бо дазваляе апошнім пазытыўна самасьцьвердзіцца, стварае ілюзію ўпэўненасьці ў сабе, а таксама ў тым, што шлях да нацыянальнага самаўсьведамленьня, пройдзены імі, зьяўляецца тыповым і раней ці пазьней непазьбежным для ўсіх прадстаўнікоў дадзенай нацыянальнасьці. Тым самым пад увагу не прымаецца эўрапейскі досьвед, які вымоўна сьцьвярджае, што не бывае мэханічнага пераходу этнічнай якасьці ў якасьць нацыянальна-палітычную. Этнічнае — гэта толькі незрэалізаваная магчымасьць, і адно час і кантэкст вызначае, у якой канкрэтнай палітычнай рэальнасьці наканавана яму ўвасобіцца.

Расейскі каляніялізм у Беларусі прывёў да ўзьнікненьня новай калектыўнай ідэнтычнасьці, якая апэлюе не да ўласна беларускага этнакультурнага архіву, а да архаізуючага набору сымбаляў савецкага, а фактычна расейскага «гераічнага» мінулага. Гэты сьвядомасны працэс можна акрэсьліць як імпэрскую нармалізацыю, зважаючы на тое, якія мэты перасьледуюцца пры яго дапамозе — сьціраньне рэштакавых адрозненьняў паміж цэнтрам і пэрыфэрыяй і прыведзеньне ў жыцьцё адзінага, санкцыянаванага згары ідэнтыфікацыйнага стандарту.

Час, аднак, бязьлітасна расставіў усё па сваіх месцах. Пры канцы XX ст. стала канчаткова ясна, што якраз «сьвядомыя» беларусы зьяўляюцца *маргінальнай групай*. Тымчасам як «сьвядомыя» беларусы аддадзеныя самім сабе, грамадзкая ініцыятыва ўсё больш і больш апынаецца ў руках беларусаў «несьвядомых». «Несьвядомыя» беларусы зрабіліся сапраўднымі «заканадаўцамі мод» і значна лягчэй дасягаюць сацыяльнага посьпеху, бо лепей разумеюць законы, паводле якіх функцыянуе вышэйназванае грамадзкае цэлае.

Лягічнае наступства такога стану рэчаў у тым, што беларускасьць «сьвядомых» беларусаў успрымаецца дзеючым рэжымам па сутнасьці як антысацыяльная практыка, таму што ў пэрспэктыве яна ўсё-ткі можа стварыць для яго шмат непрыемных калізіяў.

Той, хто хоць раз-пораз чытае прэсу ці слухае радыё, напэўна запрыкмеціў, як часта чуюцца закіды ў бок шэрагу беларускіх дзеячоў, асабліва палітыкаў, у «адарванасьці ад народу», «бясконцай далёкасьці ад народу», «неразуменьні патрэбаў і жаданьняў простага чалавека».

На чым жа будуюцца такія сур'ёзныя абвінавачаньні? Што ляжыць у іх аснове? Як правіла, гэта досыць стандартны набор аргумэнтаў, якія ўключае ў сябе наступныя пазыцыі: першае, проста неэтычна паўсюль і заўсёды паслугавацца беларускай мовай, «бо народ гэтага не разумее», другое, не рэкамэндуецца займаць бескампрамісную і аб'ектыўна сумленную пазыцыю па пякучых пытаньнях бягучага жыцьця, «бо тым самым можна ўкрыўдзіць народ і народ гэтага пасьля не даруе», трэцяе, нельга «судзіць народ», г.зн. указваць яго недахопы і дэфэкты, як прыроджаныя, так і набытыя, таму што «народ тады можа адвярнуцца ад сваіх ненавісьнікаў».

Відаць, такое паняцьце народу ёсьць спэцыфічна расейскім творам, перажыткам расейскага цэзарапапізму і народніцтва, выдумкай расейскіх камуністаў і аграрыяў. На карысьць гэтага прамаўляюць некалькі прычын. Перадусім, чыста расейская стылізацыя сьвятасьці — народ у падобных ананімных уяўленьнях выступае дасканалай безаблічнай субстанцыяй, найвышэйшай і абсалютнай сацыяльнай мерай, фактычна адмысловай інкарнацыяй Бога, якую катэгарычна забаронена абмярковаць і якой неабходна толькі сьлепа пакланяцца. Да таго ж, расейскім вярхам было выгадна стварыць і культываваць акурат такое разуменьне народу, паколькі яно стварала ілюзію легітымнасьці дзяржаўнай улады, якая ў расейцаў традыцыйна гарой стаяла за народ і ніяк не залежала ад волевыяўленьня гэтага самага народу. Адмаўляючы да самага апошняга часу рэальнаму народу ў сувэрэнным праве ўдзельнічаць у фармаваньні дзяржаўнай улады й, такім чынам, самому распараджацца ўласным лёсам, прывілеяваная кляса была проста асуджана выпрацоўваць і насаджаць у масавую сьвядомасьць фікцыйныя апраўданьні свайго кіраўнічага становішча.

Няясна таксама, адарванасьць ад якога народу пастаянна падкрэсьліваецца нашымі дамарослымі аналітыкамі і ўстанаўляльнікамі канчатковых дыягназаў. Пагатоў, што ім усё-ткі нешта не дазваляе адкрыта заявіць пра адарванасьць ад *беларускага* народу. Людзі расейскай культуры на Беларусі не разумеюць адной элемэнтарнай рэчы: якраз айчынная культура і палітыка тут і цяпер стварае беларускі народ зь яго ўнікальнай ідэнтычнасьцю, якая не зьяўляецца сьляпым паўтарэньнем недзе ўжо існуючага прататыпу. Беларускі народ — не застылая дадзенасьць, якую можна памацаць рукамі і ад імя якога можна рабіць любыя бездаказныя заявы, а хутчэй незавершаны праект, рэалізацыя якога залежыць ад кожнага з нас.

Сакрат Яновіч аднойчы зацеміў, што калі ў Расеі азначэньне «народны пісьменьнік» было сынонімам крайняга літаратурнага посьпеху, зэніту славы і грамадзкага прызнаньня таго ці іншага літаратара, то ў Польшчы такая дэфініцыя ўспрымалася з дакладнасьцю наадварот: як прызнаньне таго, што пісьменьнік так і ня выйшаў за межы сялянска-бульбяной праблематыкі і піша так, як ужо нельга пісаць. Дадам ужо ад сябе: паняцьце «народ» для расейцаў, так і ненабыўшы выразнага этнічнага ці палітычнага зьместу, засталося прафанным сымбалем валоданьня або ўлады, ужываным для маніпуляцыяў масавай сьвядомасьцю.

Калі гэта так, то адарванасьць некаторых беларускіх дзеячоў ад такога «народу» абарочваецца прырастаньнем нацыі палітычнай. ■




# У ЛІСТАПАДЗЕ 1812-ГА

***Пабачыўшы спалучэньне словаў «напалеонаўскі скарб», усялякі прыстойны абыватель іранічна пасьміхаецца і дакорліва трасе галавой. «Пішуць розную лухту», — мармыча абыватель, адарваўшы вока ад газэты, але нататку пра пошукі скарбу абавязкова дачытвае да канца.***

***185 гадоў мінула ад часу напалеонаўскай кампаніі, а нашаму брату-журналісту й дагэтуль не даюць спакою прыхаваныя куфры з чырвонцамі, і на газэтных палосах раз-пораз зьяўляюцца кладашукальніцкія матэрыялы. Памятаю, недзе пры канцы сямідзясятых асьвятляць гэтую няўдзячную тэму ўзяўся адзін надзвычай папулярны футбольны аглядальнік. У адной з сталічных газэт ён зьмясьціў сэрыю рэпартажаў пра пошукі напалеонаўскага скарбу на дне нейкага возера. І хаця вадалазы, што чабохталіся на дне, залатую карэту на бераг ня выкацілі, рэпартажы тыя нарабілі шмат шуму, і цяпер Павал Якубовіч узначальвае «Советскую Белоруссию».***

***Я прапаную сваёй улюбёнай газэце аповед, запісаны са словаў Міхайла Васілевіча КОВАЛЯ, украінца, вэтэрана вайны, які цяпер жыве ў Наваполацку. Дакладны адрас яго ёсьць у рэдакцыі.***

Вінцэсь МУДРОЎ

«Нарадзіўся я ў 1921 годзе на Чарнігаўшчыне, ля мястэчка Панорніца. Да 1930 году бацька працаваў на зямлі, а потым падаўся на Данбас — ратавацца ад калектывізацыі. Яшчэ падлеткам давялося паспытаць цяжкай шахтарскай працы, а напярэдадні вайны лёс закінуў мяне на Дняпро. Колькі месяцаў завіхаўся качагарам на рачным параплаве «Кляра Цэткін». У красавіку 41-га мяне забралі ў Чырвоную Армію.

Служыў у Кіеве, у артпалку, што месьціўся непадалёку ад 56-га аптычнага заводу. Дзень пачатку вайны адбіўся ў памяці: ад ранку даглядаў коні на палкавой стайні, і нечакана зямля пад нагамі здрыганулася й паветра напоўнілася гудам. Выбег на падворак і ўбачыў самалёты. Навокал замітусіліся, замацюкаліся, гукаючы: «манэўры» — а калі бомба грымнула на тэрыторыі заводу, усе разам выдыхнулі: «вайна».

На фронт выбіраліся праз чатыры дні — да таго часу шмат хто з так званага прыпіснога складу разьбегліся па хатах. Ехалі таксама чатыры дні, прычым у дарозе коням сена кідалі, а чырвонаармейцы сілкаваліся толькі тым, што перахоплівалі на станцыях. Перахапілі, у прыватнасьці, саган з пракіслым гарохам і потым да самага фронту мучыліся жыватамі. Зрэшты, ніякага фронту на той час і не было. Гэта мы зразумелі, прыехаўшы на станцыю Валачыск.

Ну, а потым было адступленьне. Прабіваліся на ўсход удзевецярох — восем чырвонаармейцаў і адзін лейтэнанцік. Навокал адступалі цэлымі дывізіямі: брудныя, галодныя, абадраныя.

Такім чынам прайшлі Старакастантынаў, Віньніцу, Умань, нарэшце, датупалі да мястэчка Новаархангельск Кіраваградзкай вобласьці, ляглі ў кустох, заснулі, а раніцою нас абудзіла гучнае гергеканьне: «Эльба», «Эльба», «Іхь Рэйн»... Немцы стаялі на дарозе й перамаўляліся па рацыі.

Да ночы мы адседзелі ў кустох, пасьля разьбіліся на пары і пайшлі на ўсход. Я пайшоў на пару са Сьцяпанам Шчарбінам — ён быў родам з Днепрапятроўскай вобласьці і вырашыў падацца на радзіму. На наступны дзень убачылі гурт вясковых цётак, якія кідалі снапы на лабагрэйку. Падышлі мы са Сьцяпанам. Цёткі на нас зірнулі й кажуць: «Скідайце свае мэтлахі, бо немцы ў вёсцы».

Да Днепрапятроўску датупалі 25 жніўня. Сьцяпан пераправіўся на другі бераг Дняпра, а я пайшоў адведаць родную цётку, якая жыла на вуліцы Фабрычнай. Прыйшоў на тую вуліцу, гляджу — хата спаленая, дзе цётка — ніхто ня ведае, а тут аблава: мадзярскія патрулі спраўджваюць дакумэнты. І апынуўся я ў гарадзкой вязьніцы. Народу сьвет: камандзіры, палітрукі, савецкія службоўцы. Былі і простыя людзі. Аднаго такога на маіх вачох адпусьцілі: паведаміў, што пацярпеў ад бальшавікоў, паказаў нейкую паперку, і — бывай, вязьніца! Вырашыў і я пусьціцца на хітрыкі. Прабіўся да перакладніка, кажу: за камуністаў сядзеў, цяпер ізноў ні за што ўзялі. Перакладнік кіўнуў ахоўніку, той завёў у камэндатуру. Тлусты немец-камэндант запытаўся — за што сядзеў? За антысавецкія прыпеўкі — адказваю. А ну, прасьпявай... Я і выдаў:

*Сидит Сталин на плоту,*
*Кормит х... бедноту.*
— А яшчэ?
*Сидит Сталин на лугу —*
*Грызёт конскую ногу.*
*Вот какая гадина*
*Советская говядина.*

З маёй дапамогай — я трохі ведаў нямецкую мову — перакладнік, як мог, пераклаў, немцы зарагаталі і выкінулі мяне за браму.

Празь месяц, у кастрычніку, прышкандыбаў на родны Данбас. Шмат чаго пабачыў у дарозе. Непадалёк ад станцыі Ясінаватая дапамог уратавацца двум нашым. Цягнуся па дарозе, бачу, двухколка, запрэжаная мулам, уехала ў лужыну, два хлопцы яе пхаюць, а побач стаяць два італьянцы з карабінамі і лаюцца па-свойму. Адзін з «макароньнікаў» гукнуў мяне. Я таксама налёг плечуком на двухколку, і хлопец прашаптаў на вуха: «Завалі з разьбегу аднаго, а мы другога скруцім». Крэкнулі, налеглі, я й рынуў на італьянца. Зьбіў з ног, аглушыў прыкладам. Хлопцы тым часам з другім справіліся. Падзячылі мне, пытаюцца: куды ідзеш? У Дзябальцава, кажу, да бацькоў. Хлопцы ўздыхнулі: у Дзябальцава не патрапіш, там лінія фронту. Ідзі чыгункаю, праваруч будзе вёска Жалезная, знойдзеш там цётку Матруну — яна цябе возьме на пастой.

Так я ўладкаваўся на жытло, а праз пару дзён тыя ж людзі зрабілі мне ксіву зь пячаткай. Тут я і зразумеў, што маю справу з вайсковай выведкай.

Савецкія самалёты часьцяком бамбілі нас, і аднойчы бомба гакнула непадалёку ад нашага дому, раструшчыўшы нямецкую легкавушку і тых, хто ў ёй сядзеў. Я пайшоў паглядзець і выпадкова знайшоў афіцэрскі пляншэт, у якім ляжалі неадпраўлены ліст з надпісанай капэртай, тры франтавыя фотаздымкі ды розная драбяза.

У лісьце маёр Ганс Грунэвальд пісаў свайму брату Аўгусту пра тое, што кампанія на Ўсходзе на наступны год будзе завершаная, і была прыпіска: «Дарагі Аўгусьце, захоўвай мапу, якую я табе даў. Адразу ж па вайне паедзем у Беларусь і купім тую дзялянку зямлі...» Напісана гэта было так, што я падумаў: ён мае на ўвазе нейкі закопаны на тэрыторыі Беларусі скарб, няйнакш.

Прызнаюся: на хвіліну мяне апанаваў кладашукальніцкі сьверб. Наўкол вайна, кроў, галеча, а я адно і думаю — як патрапіць у Майнц — і пабачыцца з Аўгустам. І, уявіце сабе, мае мары спраўдзіліся.

У сакавіку 42-га прыйшлі да мяне мае знаёмцы і кажуць: «Фашысты набіраюць людзей на працу ў Нямеччыне, у Горлаўцы фармуецца эшалён. Партыя прыбывае ў Кёльн, туды трэба перадаць адну рэч». Праз тыдзень я ўжо ехаў у Нямеччыну.

Да Кёльну ехалі амаль месяц. На кёльнскай станцыі нас выгрузілі і завезьлі ў перасыльны лягер. Тут я і сустрэўся з патрэбным чалавекам. Перадаў яму кавалак цыраты, і «брат» прамармытаў: «Будуць набіраць у Бад-Кройнцах, на хімічны завод, паспрабуй убіцца ў тую групу». І назваў армянскае прозьвішча — з тым армянінам я мусіў зьвязацца ў Бад-Кройнцаху.

Хімічны завод уяўляў сабой праўдзівае пекла. Праца была шкодная, немцы ставіліся да нас як да быдла. Цягаючы жалезны чоп з растопленай серай, я кляў свой лёс і тую хвілю, калі пагадзіўся ехаць у Нямеччыну. Калі я даведаўся, што Майнц знаходзіцца зусім побач з Бад-Кройнцахам, я вырашыў паспытаць шчасьця й напісаць таму Аўгусту.

Мы зь ім сустрэліся. Аўгуст аказаўся худабзеям, і ў яго нэрвова тузалася галава. Я яму адразу выдаў: «Вам прывітаньне ад Ганса!» Немец зьніякавеў, пачаў бубнець па-нямецку, што ад брата чатыры месяцы няма лістоў, а я, фальшыва ўздыхнуўшы, патлумачыў: «Брат ваш у расейскім палоне, і ўратаваць яго можа толькі мапа, якую ён вам даў на захаваньне». Пачуўшы пра мапу, Аўгуст адразу ж насьцярожыўся. Я выцягнуў свае апошнія козыры: тры франтавыя фотаздымкі. «Вось Ганс пры разьвітаньні прасіў перадаць». Пабачыўшы фотаздымкі, немец шморгнуў носам, змахнуў сьлязіну і палез у кішэню па мапу.

Мапа была надта старая, Аўгуст сказаў — яшчэ напалеонаўскіх часінаў. На ёй была намаляваная віхлястая рачулка, нейкае паселішча, могілкі, дарога і два крыжыкі — на поўнай адлегласьці адно ад другога. Ніжэй мапы было штосьці напісана пяром па-француску. Сярод гэтай пісаніны я разабраў толькі лічбу 400 ды слова «імпэратарскі». Разабраў і назву віхлястай рэчкі: Дрыса.

Атрымаў я не арыгінал, а толькі копію, выкананую на празрыстай паперы, прычым копію, падобна, дакладную. У тлумачальнай запісцы, аднак, меліся некалькі пропускаў, бо на арыгінале некаторыя словы былі зацёртыя.

На заводзе ў нас працаваў адзін француз, да яго й зьвярнуўся. Напалеонаўскі зямеля доўга ўглядаўся ў тэкст, потым сваімі словамі растлумачыў, што тут апісваецца, як абоз з грашыма імпэрскай казны ішоў да Кёнігсбэргу і 22 лістапада 1812 году вайскоўцы, што суправаджалі абоз, мусілі часткова закапаць, а часткова патапіць у рацэ Дрыса каштоўны груз. «Згадваюцца залатыя і срэбныя грошы, прычым срэбных было 400, а чаго — ня піша». У мяне сталі ўжо распытваць, адкуль я ўзяў паперу. «Ды так, — кажу, — перамаляваў з адной старой кніжкі». І я, падумаўшы, закапаў яе ў надзейным месцы: непадалёку ад гарадзкога стадыёну.

Закапаў бутэльку неглыбока, думаў, буду зьяжджаць дахаты — прыхаплю, але абставіны склаліся інакш. У ліпені 42-га выбраліся ўначы зь сябруком Іванам Самойленкам на чыгуначную станцыю — пашукаць якога едзіва, і былі затрыманыя патрулём. За такія прагулянкі можна было патрапіць у канцлягер, а то й атрымаць кулю ў лоб. Кулю, дзякуй Богу, не атрымалі: адседзелі ноч у нейкім падвале й былі кінутыя на разгрузку вагонаў. Увечары, хістаючыся ад стомы, вырашылі даць драла. Быў толькі адзін шанец уратавацца — убіцца ў цягнік, які ішоў на ўсход. І нам пашанцавала — на торах стаяў эшалён, вагоны якога ўпрыгожвалі шыльды з надпісам «Smolensk». Залеглі мы зь Іванам у кустох, а калі паравознікі далі гудок, Іван першы кінуўся да вагону. І ў той жа момант быў злапаны вартавым. Я ж паспеў ускочыць у вагон. У мяне аж душа зайшлася — шкада было Йвана. Але Йван мяне і ўратаваў. Павялі яго немцы ў вартоўню, а я тым часам сіганулў у вагон, у нейкія драўляныя шчыты везьлі. Тыдзень пакутаваў безь пітва і ежы, ужо і трызьніць стаў з галадухі і ачухаўся толькі тады, як пачуў рускую мову. Гляну праз шчыліну — станцыя Бігосава. Неўзабаве і скочыў зь цягніка.

Потым была партызаншчына, і ваяваць давялося якраз у Дрысенскім краі, у складзе 1-й Дрысенскай партызанскай брыгады. Пасьля вайны на радзіму не паехаў — вырашыў асесьці «бліжэй да скарбу», у вёсцы Дзёрнавічы навачаснага Верхнядзьвінскага раёну. Распытваў старых дзядоў — ці чуў хто зь іх пра напалеонаўскія скарбы — і аднача́сна вывучаў гісторыю вайны 1812 году. Прачытаўшы ўсё, што мог знайсьці, пабудаваў уласную вэрсію «блуканьня» абозу з грашыма імпэрскай казны. Везьлі французы, відавочна, жолд — жалаваньне наймітаў. Дапаўзьлі да якіх Чашнікаў, дачуліся, што справы ў Банапарта дрэнь і атрымалі загад: рухацца пяткамі назад у накірунку Кёнігсбэргу. Балазе, дарога была адкрытая: у Полацку, Друі й Дзьвінску стаялі французы. На дварэ быў кастрычнік — пачатак лістапада, дарогі разьвезла, і пакуль ішлі да Полацку, Удыно з Сэн-Сірам былі выбітыя з гораду, корпус Штэйнгеля заняў пераправы празь Дзьвіну — ад Полацку да Дынабургу, і абозьнікам нічога не заставалася, як прыхаваць каштоўны груз не беразе віхлястай рачулкі Дрысы. Тут можа ўзьнікнуць пытаньне: як мог той жа Ўдыно кінуць на волю лёсу такі каштоўны груз? На гэта ёсьць лягічны адказ: груз быў сакрэтны і, магчыма, нават тыя, хто яго суправаджаў, ня ведалі, чым наладаваныя калёсы.

Асабіста ў мяне няма сумневу, што мапа, пра якую тут гаворка, аўтэнтычная і не зьяўляецца нейкай гістарычнай фальсіфікацыяй. Маючы яе на руках, можна было распачаць пошукі скарбу. Яе уладальнік, Аўгуст Грунэвальд, даўно памёр, але, відавочна, засталіся ягоныя сыны ды ўнукі. За добрыя грошы яны б маглі разьвітацца з радзіннай рэліквіяй.

У чытачоў можа ўзьнікнуць яшчэ адно пытаньне: ці магу я, згадаўшы мапу, хаця б прыкладна акрэсьліць межы магчымых пошукаў? У адказ мушу заўважыць, што ў 42-м годзе я і ўяўленьня ня меў, дзе знаходзіцца рэчка Дрыса, куды і ў які бок яна цячэ. І ўсё ж магу сказаць дакладна: шукаць трэба на абсягу ад Дзёрнавічаў да Валынцаў. Гадоў шэсьць таму, калі мне на вочы патрапіла больш-менш дакладная мапа, я доўга глядзеў на блакітную палоску, і ў адным месцы выгін ракі Дрысы падаўся мне рыхтык такім, як на старой францускай мапе. Рука міжволі намалявала крыжыкі, і я таго ж дня напісаў ліста нашаму знакамітаму археолягу Георгію Штыхаву. Паведаміў пра верагодныя месца схову, але сп.Штыхава маё паведамленьне не зацікавіла. Ды й ня дзіва. Тут і завалодаўшы мапай «з крыжыкамі», зморысься шукаць, бо мінула, лічы, два стагодзьдзі, і за гэты час нават рэчышча Дрысы зьмянілася. Не зьмяніліся толькі людзі. Яны па-ранейшаму шукаюць скарбы. І адзін з тых скарбаў — я ўпэўнены — ляжыць у беларускім суглінку на беразе віхлястай ракі і, як тая бомба зь вядомай быкаўскай аповесьці, чакае свайго часу». ■

вандроўка.

# ПАД МЛАЗАВІЦЭ

***Прадстаўнікі 10 беларускіх рыцарскіх клюбаў удзельнічалі ў сустрэчы «Млазавіцэ 1421»***

У 8.00 два аўтобусы «Нэаплан» ад'яжджаюць зь Менску ад Акадэміі навук. Напрамак — Горадня.

## Польшча

Седзячы ў аўтобусе,назіраю праз шыбу за краявідамі Польшчы. Адразу кідаецца ў вочы, што тутака нямашака вялізных, засеяных адной культурай палёў — невялікія, сотак 40—50 надзелы. Хаткі збольшага тынкаваныя, з чырвонай дахоўкаю. На магілках вялізныя двухмэтровыя скульптуры Маці Божай і анёлаў замест надмагільных каменяў. З 1939 па 1944 гады гэтыя землі былі пад юрысдыкцыяй БССР. Як бы выглядалі яны цяперака, каб Сталін не адкраіў іх пасьля вайны на карысьць палякаў. Заяжджаем у Беласток да супэрмаркету. Купляю газэту «Ніва» на беларускай мове і тое-сёе пад'есьці.

Перад польска-чэскай мытняй прыпыняемся. Тутака лепш за ўсё мяняць даляры на чэскія кароны. Курс 1$ — 33,5 Kč. У самой Чэхіі ўсе абменныя канторы прыватныя й за кожную апэрацыю нейкі працэнт забіраюць. Праўда, чым большую суму мяняеш, тым выгадней. Але лепш за ўсё прыблізна разьлічыць, колькі грошай выкарыстаеш, і абмяняць іх на польскім баку.

У адпаведнасьці з патрабаваньнямі Эўрасаюзу пасьля 2000 году Чэхія ўвядзе візавы рэжым для беларусаў, але пакуль патрапіць у гэтую краіну проста.

## Чэхія

Наш аўтобус кіруецца да замку Конапіштэ, каля мястэчка Бенешаў. Гэта замак XIV ст., які належаў аўстрыйскай каралеўскай сям'і. Адзін з апошніх яго ўладальнікаў, прынц Фэрдынанд, быў застрэлены сэрбам у 1914 годзе, што сталася падставай пачатку вайны. Цяперака тут музэй з адной з самых прыгожых у Эўропе калекцыяў зброі (4682 экспанаты), Ружовы парк (225 га) з італьянскімі скульптурамі. Можна паглядзець на мядзьведзя, які гадуецца ў замкавым ірве.

Кідаюцца ў вочы інваліды ў калясках. Іх вельмі шмат (як я пабачыў пасьля і па ўсёй Чэхіі), пачынаючы ад дзяцей і канчаючы нямоглымі старымі. Відаць, што тутака яны не адчуваюць прорвы між сабою і здаровымі людзьмі. Экскурсія па замку каштуе 140 крон.

Наступны прыпынак — Чэскі Штэрнбэрк — прыгожы замак, які пабудаваны ў 1240 годзе высока на скалах. Замак гэты вядомы адной з самых вялікіх у сьвеце калекцыяў старажытных гравюр. Замак прыватны. На другім паверсе жыве 75-гадовы гаспадар Штэрнбэрг з гаспадыняю, трэці й частка першага паверху аддалі пад музэй. За савецкім часам замак быў нацыяналізаваны, а гаспадар, каб мець магчымасьць жыць у ім (у невялікім пакойчыку), вымушаны быў працаваць гідам. У 1989 годзе, паводле новага чэскага закону, старыя гаспадары змаглі атрымаць назад сваю маёмасьць і спадчыну, калі меліся дакумэнты, што пацьвярджалі правa на ўласнасьць. Але адразу ж узьніклі праблемы з падаткамі, а таксама патрэбныя былі сродкі, каб падтрымлівацъ замак у добрым стане.

Уваход каштуе 70 крон. Для студэнтаў скідка 50%.

## Млазавіцэ

На ўскрайку гэтага мястэчка, каля старога, напаўразбуранага будынку, знаходзіцца месца для лягеру, ці, як кажуць чэхі, — табару. Паставіўшы намёты, кіруемся да піўной. У бары чорнае й сьветлае піва па 10 крон за куфаль. Да піва можна замовіць «утапельцы» (тапелец — панашаму) — халодную і сьлізкую (якім і мусіць быць тапелец) кілбаску, нашпігаваную зелянінаю. Пасьля каля намётаў раскладаем вогнішча. Зьяўляецца гітара, гучаць беларускія песьні, падыходзяць палякі й чэхі. Частуем іх гарэлкай, яны нас настойкамі...

## Прага

Пасьпяваем сфатаграфавацца каля рэзыдэнцыі Гавэла, каля дамка Франца Кафкі, каля дошкі, прысьвечанай Францішку Скарыну. Некаторыя з нашых трапляюць нават на Вінаградзкую 1, у беларускую рэдакцыю радыё «Свабода» і даюць інтэрвію. Хвілін 15 чакаю каля Арлоя, калі той пачне званіць. Арлой — гэта гадзіньнік, пабудаваны на гарадзкой ратушы. Ён паказвае час, а таксама месяц, год і знак задыяку. Штогадзіну адчыняюцца абапал яго дзьве дзьверкі, у якіх па чарзе зьяўляюцца 12 апосталаў. У гэты час скульптурка сьмерці, умацаваная да сьцяны каля гадзіньніка, звоніць у званочак, а побач нейкі заможны дзядзька трасе ў руцэ торбачкаю з грашыма.

Піва ў Празе дарагое. Ад 18 крон і вышэй. Шклянка натуральнага соку каштуе 25 кронаў.

## Бойка пад Млазавіцамі

Бойка прызначана на 14-ю. Ад няма чаго рабіць наша кампанія кіруецца на гару. У лесе чуем жаночыя галасы. Яны пяюць беларускія песьні. Кіруемся туды й сустракаем нашых дзяўчат. Тыя, апранутыя ў старажытныя строі, вырашылі папрактыкавацца перад турнірам.

Распавяду крыху гісторыі.

У XV ст. Чэхія трапляе пад нямецкі ўплыў. Па сьмерці караля Вацлава, які не пакінуў спадкаемцаў, у 1419 годзе ў Чэхіі пачынаецца грамадзянская вайна. Чэскую карону прапануюць Ягайлу. Той адмаўляецца. Тады запрашэньне прымае Вітаўт. Ён намінальна становіцца каралём Чэхіі й дасылае ў Прагу свайго намесьніка.

1 сакавіка 1420 г. папа абвяшчае першы крыжовы паход супраць герэтыкаўчэхаў. У адказ у г. Табар зьбіраюцца паўстанцы. Іх гетманам становіцца Ян Жыжка, удзельнік Грунвальдзкай бітвы. Ён у той бітве, дарэчы, страціў вока. У 1421 годзе Жыжка шэрагам перамогаў спыняе першы крыжовы паход. Але ў адным з баёў ён траціць другое вока.

Папа рымскі арганізоўвае новыя паходы (усяго 5). Чэхі рашуча адбіваюцца; спадзеючыся на дапамогу Вітаўта. Той набірае трохтысячную дружыну на ўсходзе ВКЛ. Гэты атрад у 1422 годзе прыбывае ў Чэхію. Нашы вояры знаходзіліся ў Чэхіі 8 год. Вяліві князь Вітаўт даў ім загад вяртацца на радзіму, але большасьць прыняла рашэньне застацца ў Чэхіі назаўжды.



Фота Дзяніса Ласейчыкава.

Беларускі рыцар Сяргей Шаволін *(другі зьлева)*

Бойка пад Млазавіцамі — адзін з эпізодаў тае вайны. Тут у 1424 годзе Ян Жыжка разьбіў войска Яна Чэрніна.

У 1999 годзе на полі пабудаваны зь бярвеньня невялікі замак. Спачатку пачынаецца турнір — адзін на адзін. Тры пары беларусаў таксама паказалі свой спэктакаль.

Раптам зь лесу вылятаюць тры загоны Жыжкі. Сярод розных сьцягоў лунае й бел-чырвона-белы. Чэрнін са сьвітаю хаваецца ў замак. Брама за імі замыкаецца. Зь лесу страляюць гарматы. Са сьценаў пачынаецца страляніна ў адказ.

Правая й левая харугва табарытаў кідаюцца на штурм. Абаронцы ўмацаваньня адбіваюцца на сьцяне. Тутака ўжо поўная імправізацыя. Б'юцца, як бог дасьць. Зь першай спробы ўзяць замак не пашчасьціла. Войска адпачывае, пачынаецца дуэль лучнікаў з замку й табарыцкага арбалетчыка. Нарэшце ўсе тры харугвы Жыжкі кідаюцца да замку. Некага сьцягваюць са сьцяны, у кагосьці вырываюць з рук зброю. Пара табарытаў залазяць на сьцяну й трапляюць у замак. Зь вежы зьнікае сьцяг. Рэшткі абаронцаў разам зь Янам Чэрніным адчыняюць браму й кідаюцца ў бой. Пару хвілінаў працягваецца бойка. Усё поле засланае «забітымі». Табарыты разам зь ліцьвінамі перамагаюць, як і патрабуе гэтага гісторыя.

Раніцою трэба ад'яжджаць. На заканчэньне мы боўтаемся ў басэйн і замаўляем па куфлі піва. Бывай, здаровае мястэчка Млазавіцэ...

**Руслан Равяка**

## Наша Ніва 90 гадоў таму

# З СЫБІРУ

*6 жніўня 1909 году*

Давялося мне быць у Сыбіры; заехаў я ў адну такую вёску, дзе жывуць нашы беларусы зь Вітэбскай губэрні, паглядзець, як жывецца ім у новай старане.

Вёска, у каторай мне прыйшлося быць, — у Томскай губэрні, у Марыінскім павеце, і завецца Баркоўка. 12 гадоў, як прайшлі сюды першыя перасяленцы-беларусы і латышы зь Вітэбскай губ.; дасталі ад казны зямлі, разьбілі гаспадаркі, і цяпер стаіць там вёска, у каторай лічаць каля 200 гаспадарак. 3 гады, як баркоўцы сабралі каля 3 тысячаў рублёў, дасталі яшчэ 4 тысячы руб. ад аднаго старога ксяндза — Аляхновіча і пабудавалі пекны драўляны касьцёл. Цяпер у Баркоўцы жыве ксёндз, і дзеля таго кругом гэтай вёскі селяцца ўсе каталікі, больш усяго беларусы зь Вітэбскай губ. Такіх перасяленцаў у Баркоўцы і каля яе лічаць цяпер да 7 тысяч душ; зь іх тыя, што прыехалі даўней у Сыбір і пасяліліся першымі на лепшых частках, — жывуць добра. Ім далі па 10 дзесяцін добрай зямлі на душу, дык можна было завясьці лепшую гаспадарку. Кожны гаспадар мае па 5-10 кароў, 3-4 коні, колькі авечак, сьвіней, — сеюць жыта і пшаніцу, каторую прадаюць. Гаспадарка тутака вядзецца крыху іначай, як у нас. Зямля добрая, гною ніколі на поле ня возяць, канюшыны ня сеюць, бо сенакасцяў шмат маюць, за тое корму трэба ўзапасіць на зіму больш, як у нас, бо зіма доўгая — 8 месяцаў трэба жывёлу сенам карміць; толькі ў траўні месяцы можна ў поле выганяць, а ў верасьні ня раз ужо сьнег засьцілае поле. У апошнія гады, калі ўсё цяжэй і цяжэй стала жыць у Беларусі, да Баркоўкі пачало наяжджаць усё больш і больш перасяленцаў. Лепшая зямля ўся была ўжо занята, дык правіцельства стала надзяляць новых ужо горшай зямлёй. Праўда, даюць і па 15 дзесяцін на душу, але карысьці з гэтага мала, — бо даюць так званую «тайгу» — такую пушчу адвечную, дзе ніколі нага чалавечая яшчэ не была. У пушчы растуць кедры (дрэва як сасна, толькі цьвярдзейшае), піхты (як елкі), і растуць так густа, што трудна прайсьці памеж імі, а грубіня аддзельных дрэў такая здараецца, што і трое людзей абняць яго ня можа. Лес падшыты кустамі парэчак і маліны, каторыя так густа сплятаюцца, што нават жывёла ня можа прайсьці.

*Юрка*

## прыватныя абвесткі

Куплю «Краснос колссо» А.Салжаніцына, усс тамы. Тэл.: 227-78-92

Сьвстлавалосая блакітнавокая шляхцянка шукас спадарожніка жыцьця ў далёкай краінс. Шляхціч мусіць быць 22—35 гадоў, упэўнсны, забясьпсчаны. 220022, а/с 14, для А.В.

Дзяўчына (23), вышэйшая (гуманітарная) адукацыя, всданьнс кампутара і гішпанскай мовы. Шукаю працу. Тэл. 242-23-11. Марына

Прадасцца зямсльны надзсл 0,6 га паміж п. Ратамка і в. Тарасава. Прадасцца альбо мянясцца чатырохпакаёвая кватэра на вул. Надзсждзінскай. Тэл.: 221-02-41, 213-33-69

Запрашасм на Аршанскую бітву 4 всрасьня. Давсдкі праз тэл.: 5-25-40, 4-71-07 ці пішыцс: 211011, Барань, Корбана, 6-13

Бсларуская Эвангсльская Царква запрашас ўсіх ахвотных на набажэнствы штонядзслю а 17 гадзінс. Мснск, вул. Любімава 21-56, тэл.: 270-89-87

Шаноўны Вядзьмак Лысагорскі, адгукніся! Стаміўся ўжо чакаць праця г аповссьці «Лу Му — наш прэзыдэнт (нслсгітымны)». З пашанай, Ясь з-пад Крычава

Варты той свабоды, хто за яс змагасцца. Гётэ

Сама вершаў нс складаю, а вось на вашыя воршаванкі пакладу музыку — і всссла засьпявасм! Жывс Бацькаўшчына! Галя. А/с 32, 225320, г. Баранавічы-9

Піва — наша! Дзяўчаты — нашы! Горад — наш! Толькі дзс знайсьці вагон здароўя?! Віктар Юркевіч

Вайцянкову Мікалаю. Эх, мілы край адвсчнай мукі! Пракляты будзьцс, вусны, рукі, што на цябс ланцуг кавалі і ў твар зьняважліва плявалі! Якуб Колас

Выйшаў № 1 газэты маладых літаратараў — «Наша ніва ісьцінная». Выданьнс нссур'ёзнас, з постмадэрновым смакам. Пакаштуйцс гэты фрукт — дашліцс капэрту з маркаю й купон б/а на адрас: а/с 169, 220030, Мснск

Прапанусм в/а працу ў хацс (250 у.а.). Гэта Вы можацс! Укладзіцс 2 капэрты са зв.а.: Мснск-89, а/с 122

«Усялякая ўлада ад Бога», алс ня ўсякая дас чалавску свабоду. Таму і я павінсн станавіцца як уладар над уладаром, каб быць свабодным, г.зн. быць ад Бога і з Богам. Вячаслаў Мілкоўскі

Дзяржава корміць нас як рабоў: каб рукі, ногі крыху варушыліся, а галава ня думала. Бо на кніжкі ўжо грошай нс хапас. Вячаслаў Мілкоўскі

## паштовая скрынка

**Сьвятлане К.** з Полацку, **Ігнату Л.** зь Менску, **Сяргею Г.** зь Берасьця. *Старонкі для празаічных імпрэсіяў у газэце цяпер няма. На старонках «Культура» мы звычайна друкуем творы больш акрэсьленага жанру. Вы пішаце пра «квяцісты луг з духмяным водарам разнатраўя», «ліпеньскую раніцу, што зьвінела занудным стракатаньнямі», «імглістую, шэрую восеньскую раніцу». Дзе Вы столькі той прыроды знаходзіце? У нас у Беларусі яе ўжо столькі не засталося. Увогуле Вашы творы можна назваць «літаратурай бязьдзеяньня» — настолькі мала ў іх action-у. Здранцьвеньне ў грамадзтве выклікае здранцьвеньне ў творах. Дзеля трэніроўкі мазгоў можна паспрабаваць напісаць па творы, дзе б не было ніводнага апісаньня прыроды і максымум дзеяньня. Cut to the chase! — кажуць у такіх выпадках галівудзкія прад'юсэры.*

*Пачынаць тэкст трыма сказамі, якія пачынаюцца з злучніка «і» — прыгожы, але ня новы прыём. Хаця што цяпер можна прыдумаць новага?*



«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Адказны сакратар Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Набор Насты Дзядзенкі. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.
Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 2792. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 18$^{05}$, 15.08.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 4145. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.